# РЭЖЫМ АКУПАЦЫІ—РЭЖЫМ ШЫБЕНІЦ

Польшча шчыльна падышла да рэвалюцыйнага крызісу—канстатуе 12 Пленум Выканкому Камінтэрну. У фашысцкай Польшчы, якая заціснута клешчамі крызісу, які ўсё паглыбляецца і павялічвае армію нездаволеных, прыгнечаных, галодных, беспрацоўных... павялічваецца армія, якая ня хоча і ня можа жыць па-старому. Магутныя баі пралетарыяту, які на тым ці іншым вучастку рашуча пераходзіў ў контр-наступленьне, б'юць у падставу капіталізму Польшчы; шпарка нарастае аграрная рэвалюцыя на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне і ўсё часьцей барацьба шырокіх мас выліваецца ў паасобныя заціятыя нацыянальна-вызваленчыя паўстаньні, узьнікаючы партызанскі рух наганяе жах на акупантаў. Расьце ўплыў і сілы кампартыі, узмацняецца яе самастойная роля ў кіраўніцтве клясавай барацьбой мас. У рады партыі ўліваюцца сотні, тысячы новых барацьбітоў—ужо 45 тысяч налічвае кампартыя байцоў, прайшоўшых агонь клясавай барацьбы, вытрымаўшы шыбенічны рэжым.

Крывавая расправа ў клясавай барацьбе набывае ў Польшчы штораз выразьнейшыя формы грамадзянскай вайны.

Аднак, гэты тэрор зьяўляецца тэрорам сходзячага са сцэны жыцьця капіталізму, тэрорам, які выяўляе аслабленьне капіталізму, яго страх перад сьмерцю, перад рэвалюцыяй.

У шыбенічнай Польшчы барацьба супроць камуністаў праяўляецца галоўным чынам у фізычным зьнішчэньні правадыро ўпрацоўных мас. Вешаюць на шыбеніцах, замучваюць па дэфэнзывах, заганяюць у магілы павольнай сьмерцю—турэмным рэжымам, па-бандыцку прыбіваюць пры першым лепшым выпадку, дзесяткамі расстрэльваюць пры карных экспэдыцыях, дэманстрацыях.

З 1-га верасьня гэтага году ўведзены дапаўненьні да карнага кодэксу аб „даразьных судох", паводле якога асуджаныя па артыкуле 102 таксама падлягаюць „даразьным" судом. Такім чынам цяпер ужо і барацьбітом нацыянальна-вызваленчага руху пагражае кара сьмерцю за „адарваньне земляў ад Рэчы Паспалітай".

Ужо звыш 200 рабочых і сялян павешаны паводле афіцыйных даных, а колькі-ж загінула ад інквізітарскай рукі акупантаў у часе Камень-Кашырскага паўстаньня, ды на Валыні, пры Лісках і шмат-шмат дзе ў іншых мясцох.

Крывавы фашызм ужо ня толькі пачкамі вешае рабочых і сялян, але і ўвёў кругавую паруку. У Ваўкавыску ў гэтым месяцы за тое, што быў забіты мясцовы асаднік, былі павешаны чатыры ня ў чым не вінаватыя сяляне.

У Горадні споеныя для храбрасьці паліцыянты ня так даўно паранілі пры дэманстрацыі 47 рабочых. Акупанты на столькі адзічэлі і звырадзелі ад клясавай нянавісьці і жаху перад надыходзячай рэвалюцыяй, што пачалі душыць у пятлі шыбеніц нават няпоўнагадовых, як гэта было ў Горадні, дзе павесілі 17-гадовага хлопца, і ў Сьвянцянах—18-гадовага.

Кроў рабочых і сялян пырскае паміж пальцаў сьціснутага акупанцкага кулака. Але дранцьвеюць пальцы катаў, млеюць сілы азьвярэлых наезьнікаў.

У вёсцы Баранава і ў вакольных вёсках (Горадзеншчына) уведзен ужо з красавіка мінулага году ваенны стан, бо ў гэтай вёсцы вядзецца нязломная барацьба супроць кулацкай фашысцкай акупацыі; усе сяляне гэтай вёскі ўжо прайшлі катоўні дэфэнзывы, апырскалі сваёй крывёю яе сьцены, разграблена іх маемасьць, наяжджаў староста з павету, угаворваў і пагражаў—ніхто не заламаўся, не сагнуўся пад ударамі тэрору, ня выбыў з радоў барацьбітоў.

У нядаўнай забастоўцы 2.000 шаўцоў Беластоку рабочыя на мітынгах і дэманстрацыях, б'ючы паліцыянтаў, вырывалі з іх рук арыштаваных.

Вось як у цені шыбеніц і ў чадзе правакацый спружыніць і зьвініць стальлю вызваленчая барацьба паднявольнага народу. Сьцяг рэвалюцыйнай барацьбы ўзьнімаецца ўсё вышэй і вышэй, і ўсё шчыльней каля яго гуртуюцца працоўныя масы.

КПЗБ у аднэй са сваіх адозваў заклікае: „масавым націскам, усёй грамадой, усімі сродкамі не дапускайце да распраў палявых судоў, вырывайце з рук фашыстоўскіх катаў барацьбітоў-сьмертнікаў! Няхай начуюць акупанцкія крывасмокты грозную нянавісьць і помсту працоўных мас!" І масы ідуць за заклікам партыі, ідуць за партыяй, бо ўсё больш пераконваюцца, што адзіны выхад з голаду, беспрацоўя, нацыянальнага ўціску, тэрору—гэта выхад у рэвалюцыйнай барацьбе пад кіраўніцтвам кампартыі, у пралетарскай рэвалюцыі.

У такой напружанай абстаноўцы адбыўся працэс Тарашкевіча—правадыра нацыянальна-вызваленчага руху. Польскі фашызм і яго нахлебнікі—белая хэўра з Луцкевічаў, Станкевічаў, Акінчыцаў усё зрабілі, каб зламаць рэвалюцыйную волю Тарашкевіча, каб зганьбіць, каб фізычна замучыць. Правакацыя, посулы, тэрор, доўгія гады катаргі, чарненьне, цкаваньне, ізаляцыя ў адзіночцы з забаронай чытаць кнігі і працаваць над сабой—вось мэтады фашызму, якія перанёс Тарашкевіч. Аднак, Тарашкевіч не пайшоў на службу фашызму, ня здрадзіў інтарэсам працоўных мас. Сілу і стойкасьць ён чэрпае ў рэвалюцыйным руху працоўных мас Заходняй Беларусі і ўсёй Польшчы, чэрпае ў тэй гэраічнай барацьбе рабочых і сялян, якая прывядзе да пралетарскай рэвалюцыі, да перамогі над акупантам, да Савецкай Польшчы.

Рабочыя, калгасьнікі, сяляне і ўсе працоўныя БССР, адклікаючыся заўсёды на барацьбу працоўных мас у капіталістычных краінах, выкажуць і цяпер сваю пралетарскую салідарнасьць з повадү расправы польскага фашызму над правадыром нацыянальна-вызваленчага руху Тарашкевічам, расправы, якая зьяўляецца адным са зьвеньняў ланцуга белага тэрору, шыбенічнага рэжыму польскіх акупантаў на Заходняй Беларусі („Зьвязда").

# ТАРАШКЕВІЧ ПРЫГАВОРАН ДА ВАСЬМІ ГОД КАТАРГІ

**Пасьля двухдзённага разгляду Віленскі акруговы суд прыгаварыў Браніслава Тарашкевіча да васьмі год катаргі з пазбаўленьнем правоў на 10 год і Бакача да чатырох год катаргі. Лябецкі і Мехляр засуджаны да двух год катаргі кожны, Лебко і Рэшатаў на паўтара гады катаргі.**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ШЛЯХІ
# Калектывізацыі

24
1932
СЬНЕЖАНЬ




ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

ЗЬМЕСТ





# Усе сілы на завяршэньне збожжазагатовак

**Шырокай мабілізацыяй калгасных мас і працоўных аднаасобнікаў, бязьлітаснай барацьбой з кулаком і яго агентурай правымі і „левымі“ апартуністамі — забясьпечым баявыя тэмпы выкананьня пляну збожжазагатовак.**

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) пастанавіла аграмаднейшыя задачы для другой пяцігодкі. „Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“.

Для сельскай гаспадаркі XVII Усесаюзная партканфэрэнцыя паставіла задачу: „ажыцьцявіць завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі з тым, каб машына-трактарныя станцыі ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і сацыялістычнага перавыхаваньня калгасных мас павінны стаць у цэнтры ўвагі і ў другой пяцігодцы“. Павышэньне ўраджайнасьці зьяўляецца цэнтральнай і галоўнай задачай у другой пяцігодцы ў галіне сельскай гаспадаркі.

Мы знаходзімся на парозе ўступленьня ў першы гаспадарчы год другой пяцігодкі.

Усё гэтае патрабуе ад нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў застаўшыя дні апошняга году першай пяцігодкі такіх тэмпаў, якія-б забясьпечылі поўнае завяршэньне выкананьня народна-гаспадарчага пляну 1932 году, забясьпечылі ўступленьне ў другую пяцігодку без прарываў, без запазычанасьці па народнагаспадарчаму пляну заключнага году першай пяцігодкі.

Мы знаходзімся зараз у паласе адказьнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі на вёсцы, у паласе завяршэньня збожжазагатовак. Поўнасьцю выканаць дзяржаўныя загатоўкі — гэта значыць перамажна завяршыць заключны год першай пяцігодкі, гэта значыць уступіць у другую пяцігодку без запазычанасьці.

Аднак зьвесткі гавораць аб тым, што загатоўчая кампанія праходзіць зусім нездавальняюча. Так, па зьвестках на 10 е сьнежня гадавы плян збожжазагатовак выкананы ўсяго толькі на 66,7 проц., а разам з насеннай пазыкай—на 60,2 проц.

Толькі слабай барацьбой з кулацка-рвацкімі тэндэнцыямі сярод адсталай часткі калгасьнікаў, недастатковым правядзеньнем барацьбы з сабатажам кулацка-заможнай часткі вёскі, слабым правядзеньнем масава-палітычнай работы сярод мас калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў, — тлумачыцца такое ганебнае выкананьне пляну збожжазагатовак.

Мы маем раёны, сельсаветы, калгасы, якія паказалі бліскучыя ўзоры барацьбы за выкананьне пляну загатовак. Дзесяткі сельсаветаў, сотні калгасаў даўно ўжо выканалі свае абавязацельствы перад пралетарскай дзяржавай. Рад партыйных ячэек (**Юравіцкая**, Мазырскага раёну, **Замастоцкая**, Віцебскага раёну і інш.) паказалі сапраўдную бальшавіцкую барацьбу за збожжа, паказалі як трэба выконваць баявое заданьне партыі і ўраду.

Калгасы і працоўныя аднаасобнікі Татарскай АССР і Маскоўскай вобласьці першыя ў Савецкім Саюзе датэрмінова выканалі гадавы плян загатовак збожжа і бульбы і забясьпечылі сябе насенным матар'ялам да надыходзячай веснавой пасеўнай кампаніі. Па пастанове ЦК УсеКП(б) і Саўнаркому СССР калгасам, калгасьнікам і працоўным аднаасобнікам Татарскай АССР і Маскоўскай вобласьці, якія з гонарам выканалі свае абавязацельствы перад пралетарскай дзяржавай, дазволен зараз бесьперашкодны гандаль хлебам. Гэтых посьпехаў на загатоўчым фронце братняя рэспубліка і вобласьць дабілася ў рашучай і няпрымірымай барацьбе з клясавым ворагам—кулаком і яго агентурай—правымі і „левымі“ апартуністамі.

БССР павінна ўзброіцца вопытам перадавых у выкананьні збожжазагатовак. Трэба зараз-жа крута ўзьняць тэмпы загатовак. Кожная партыйная ячэйка, кожны ў асобку камуніст вёскі павінны памятаць, што яны ў першую чаргу нясуць адказнасьць за пасьпяховае выкананьне дзяржаўнага заданьня.

Трэба мабілізаваць масы калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў на завяршэньне збожжазагатовак **да 25 сьнежня.** Шырока растлумачыць працоўным вёскі, што датэрміновае выкананьне збожжазагатовак дасьць магчымасьць разгарнуць бесьперашкодны продаж хлебам. Рашуча і няпрымірыма змагацца з кулаком, які ўсімі мерамі імкнецца сарваць выкананьне пляну. Прымусіць кулацка-заможную частку вёскі поўнасьцю выканаць дадзеныя ёй цьвёрдыя заданьні па загатоўкам.

Падрыхтоўка да ўступленьня ў першы год другой пяцігодкі патрабуе ліквідацыі ўсіх недахопаў, якія перашкаджаюць пасьпяховаму правядзенью гаспадарча-палітычных кампаній, патрабуе рашучай і канкрэтнай перабудовы ўсёй работы партыйных і савецкіх арганізацый. Мы павінны працаваць у застаўшыя дні сьнежня месяца так, каб уступіць у другую пяцігодку без прарываў, без запазычанасьці, з поўным выкананьнем па ўсім галінам народна-гаспадарчага пляну заключнага году першай пяцігодкі.

Поўнае і датэрміновае выкананьне пляну збожжазагатовак — справа гонару кожнага калгасьніка, кожнага бедняка і серадняка аднаасобніка.

**Усе сілы на завяршэньне збожжазагатовак да 25-га сьнежня!**

# ЯК ТРЭБА ЗМАГАЦЦА ЗА ХЛЕБ

*(Віцебскі раён)*

Замастоцкі сельсавет зьяўляецца перадавым у раёне па збожжазагатоўкам. Гэты сельсавет наблізіўся ўжо да выкананьня гадовага пляну. Да 20 сьнежня збожжазагатоўкі будуць поўнасьцю выкананы.

Гэтых посьпехаў сельсавет дабіўся дзякуючы правільна пастаўленай рабоце Замастоцкай партыйнай ячэйкі. Адразу, як толькі быў атрыман сельсаветам плян збожжазагатовак, партыйная ячэйка разгарнула належную работу. Ячэйка мабілізавала ўсіх камуністаў, камсамольцаў і ўвесь мясцовы актыў на выкананьне заданьня.

Спачатку плян збожжазагатовак быў дэталёва абгаворан на сходзе партячэйкі з удзелам камсамольскага актыву. На гэтым сходзе кожны камуніст і камсамолец атрымаў канкрэтнае заданьне па выкананьні пляну. Да кожнага калгасу быў прымацаван партыйна-камсамольскі актыў, на які разам з старшынёй калгасу была ўскладзена адказнасьць за выкананьне пляну.



Камісія садзейнічаньня па збожжазагатоўкам Слабадзкога сельсавету.

Пасьля сходу партыйнай ячэйкі, уся работа была перанесена ў калгас, у вёску. Праводзілася шырокая масава-растлумачальная работа сярод калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў. Гутаркі праводзіліся ў кожнай вытворчай брыгадзе калгасу.

У калгасе імя Варашылава прымацаваны камсамолец Васілевіч разам з старшынёй калгасу Макарэнка правялі растлумачэньне аб збожжазагатоўках ва ўсіх брыгадах. Тут-жа ў брыгадах былі намечаны канкрэтныя мерапрыемствы па хутчэйшым абмалоце, ачыстцы і адвозцы збожжа на загатоўчы пункт. Кожны калгасьнік ведаў, што яму

канкрэтна рабіць па выкананьні баявога заданьня. Для хутчэйшага абмалоту збожжа, у калгасе „Замасточча“ былі арганізаваны дзьве маладзёжныя брыгады. Малацьба праходзіла ў калгасе круглыя суткі.

У калгасе „Замасточча“ валяліся конныя прывады, між тым, як у калгасах „Чырвоная Зорка“ і „Зарабінічы“ пагражала зрывам малацьбе з-за адсутнасьці прывадоў. Партыйная ячэйка прыняла меры і, пры яе дапамозе, гэтыя прывады сельсаветам былі перакінуты ў „Чырвоную Зорку“ і „Зарабінічы“. Гэта дало магчымасьць памянёным калгасам таксама арганізаваць кругласутачны абмалот збожжа і пазбавіцца страт, якія былі ад ручнога абмалоту.

Вялізарнейшым стымулам у выкананьні пляну збожжазагатовак па Замастоцкаму сельсавету зьявілася выдача авансаў калгасьнікам. К гэтаму партыйнай ячэйкай былі прыняты сваячасовыя захады. Авансаваньне калгасьнікаў праводзілася выключна па працаднёх, з разьлікам 15—20 проц. намалочанага збожжа. Акрамя гэтага ячэйкай былі прыняты меры к выпраўленьню дапушчаных памылак пры разьмеркаваньні авансаў у калгасе „В-Чарніцы“. Усё гэтае спрыяла пасьпяховаму ходу выкананьня плянавага заданьня збожжазагатовак.

Арганізацыя мас, правільная расстаноўка партыйна-камсамольскіх сіл, канкрэтнае апарацыйнае кіраўніцтва ходам збожжазагатовак з боку партыйнай ячэйкі, — забясьпечылі пяршынства Замастоцкаму сельсавету ў барацьбе за выкананьне пляну. Усе партыйныя ячэйкі павінны вучыцца ў Замастоцкай, як трэба працаваць па правядзеньні важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі.

**П. С—кі.**

## Скарыстаць вопыт партыйнай ячэйкі Юравіцкага сельсавету

(*Мазырскі раён*)

Па Юравіцкім сельсавету на сёнешні дзень калгасы сваё заданьне па збожжу ў 4 тоны і бульбе ў 60 тон выканалі больш як на 100 проц.—бульбы здадзена 60,5 тон і збожжа 5,2 тоны.

Па аднаасобным сэктары плян па бульбе выканан на 86 проц. і збожжу—60 проц. Гэтыя посьпехі былі дасягнуты дзякуючы напружанай працы партыйнай ячэйкі, сельсавету і ўсяго актыву.

На працягу ўсёй кампаніі было праведзена 5 агульных сходаў калгасьнікаў і аднаасобнікаў, 3 куставых нарады селькораў, на якіх ставілася пытаньне аб загатоўках. Ад партыйнай ячэйкі і сельсавету да кожнага вучастку былі прымацаваны брыгады з членаў партыі, членаў сельсавету, у працы якіх прымалі сыстэматычны ўдзел камсамольцы і настаўнікі м. Юравіч.

Праўленьні калгасаў „Ударнік“ і „Чырвоны Сьцяг“ арганізавалі калгасьнікаў на барацьбу за сваячасовае выкананьне загатовак. На відных мясцох кожны дзень вывешваліся чорныя і чырвоныя дошкі з указаньнем ударнікаў загатовак, а таксама і зрыўшчыкаў пляну.

Кожную пяцідзёнку сельсавет праводзіў нарады сяброў сельсавету, на якіх абгаварваўся ход загатовак за пяцідзёнку, і лепшыя сябры сельсавету абменьваліся вопытам сваёй працы, і, калі гэта трэба было, перакідваліся на адсталыя вучасткі ў дапамогу. На ўсіх вучастках кожную дэкаду выпускаліся насьценныя газэты, галоўным зьместам якіх быў ход загатоўкі збожжа і бульбы.

Местачковы радыёвузел скарыстоўваўся кожны вечар для працы па ўзьняцьці тэмпаў загатовак. Сакратар партыйнай ячэйкі т. **Салук** інфармаваў сельсавет аб становішчы па загатоўцы, ганьбаваў зрыўшчыкаў і паказваў лепшых ударнікаў-аднаасобнікаў. Вось лепшыя ўдарнікі загатовак, селькоры **Яшчанка**, **Цэлеш**, **Лявіцкі**, **Новікаў** і інш. Яны штодня вялі растумачальную працу.

Вопыт іхняй працы, працы партыйнай ячэйкі і Юравіцкага сельсавету павінны пераняць усе астатнія партячэйкі і сельсаветы Мазыршчыны. Юравічы па-бальшавіцку змагаюцца за бульбу і хлеб.

**С.**

## ПЕРАВЫКАНАЛІ ПЛЯН ЗАГАТОВАК

(*Аршанскі раён*)

Калгас „Чырвоная Зьмена“ Тумініцкага сельсавету, дзякуючы правільнай расстаноўцы працоўнай сілы і рашучай барацьбе за высокую працдысцыпліну, даказаў сваю здольнасьць змагацца за хлеб і выкананьне іншых відаў загатовак.

Плян па жыту, аўсу, ячменю выканан датэрмінова і з перавыкананьнем. Таксама поўнасьцю выканан плян па адгрузцы бульбы, плян па ільнанасеньні і саўбе.

Спалучаючы выкананьне ўсіх відаў загатовак з кампаніяй мабілізацыі сродкаў, калгасьнікі абяцалі аб тым, што заданьні па сельгаспадатку, страхоўцы і інш. будуць выканаы да пачатку першага году другой пяцігодкі.

Калгас „Чырвоная Зьмена“ павінен стаць прыкладам іншым калгасам сельсавету — прыкладам таго, як трэба змагацца за датэрміновае выкананьне ўсіх відаў загатовак.

**Р—н.**

---

**Папярэдзіць калгасы, калгасьнікаў і аднаасобнікаў, што ў вобласьцях, краёх і рэспубліках, ня выканаўшых гадавога пляну збожжазагатовак і не забясьпечыўшых сябе насеньнем для яравой сяўбы, калгасны гандаль збожжам дапушчан ня будзе, а таксама папярэдзіць іх аб тым, што гандаль збожжам у гэтых вобласьцях, краёх і рэспубліках будзе прасьледвацца, як спэкуляцыя, згодна пастановы ЦВК і СНК ад 22 жніўня 1932 г.** (*З пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 2-XII—32 г.*).

# РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ ДАХОДАЎ—ВАЖНЕЙШАЯ ЗАДАЧА ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ

**Скончыць разьмеркаваньне даходаў ва ўсіх калгасах да 15 студзеня 1933 году і правесьці поўны разьлік і выдачу ўсіх належачых калгасьнікам даходаў па працаднёх не пазьней 1 лютага 1933 г.**

# АБ РАЗЬМЕРКАВАНЬНІ ДАХОДАЎ У КАЛГАСАХ ЗА 1932 ГОД

## Пастанова ЦК КП(б)Б

ЦК адзначае буйныя посьпехі, якія дасягнуты калгасамі БССР у 1932 г. Гэта вызначаецца ў тым, што пасеўная плошча калгасаў павялічылася да 60,6 проц.; калгасы поўнасьцю выканалі плян веснавой сяўбы і лепш чым у мінулым годзе правялі ўборку ўраджаю, скараціўшы тэрмін уборкі па асноўных культурах на 15 дзён раней чым у мінулым годзе. Усё гэта значна павысіла даходнасьць калгасьнікаў супроць мінулага году.

Дасягнутыя посьпехі ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў ёсьць вынік бальшавіцкай барацьбы за ажыцьцяўленьне пастаноў ЦК УсеКП(б) аб арганізацыі пастаянных вытворчых брыгад у калгасах, будаўніцтве новых МТС, укараненьні зьдзельшчыны, барацьбе з дробна-буржуазнай ураўнілаўкай, абязьлічкай, рэзультат барацьбы за ажыцьцяўленьне лініі партыі ў галіне калгаснага будаўніцтва.

Адзначаючы станоўчыя вынікі, якія адыграла папярэдняя выдача грашовых натуральных авансаў у сэнсе ўздыму прадукцыйнасьці працы ў калгасах і павышэньні зацікаўленасьці кожнага калгасьніка ў выніках калектыўнай працы, ЦК адначасова адзначае адсутнасьць выстарчальнай увагі з боку большасьці раённых і нізавых партыйных, савецкіх і зямельных калгасных арганізацый, а таксама МТС, да пытаньняў разьмеркаваньня даходаў у калгасах за 1932 год. Яшчэ не ўстаноўлена поўнасьцю папярэдняе складаньне пляну разьмеркаваньня даходаў, дакладны ўлік працы, выяўленьне працы лепшых брыгад і брыгадзіраў, вывучэньне становішча кожнага калгасу, зьнішчэньне ўраўнілаўкі, мэханічнага падыходу да кіраўніцтва калгасамі і г. д. Гэтым самым партарганізацыі ня ўлічваюць урокаў мінулага году: памылак і скажэньняў лініі партыі, дапушчаных пры разьмеркаваньні даходаў, што мела ў адмоўным сэнсе адбітак па радзе месц раёнаў на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і ў прыватнасьці зьявілася адной з прычын выхадаў з калгасаў у веснавую пасеўную кампанію і ў часе ўборачнай.

ЦК надае выключна важнае гаспадарчае і палітычнае значэньне разьмеркаваньню даходаў у калгасах за 1932 год, што непасрэдна зьвязана з далейшым арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў, умацаваньнем ролі брыгадзіра і брыгады, як асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці, сваячасовым выкананьнем цэнтралізаванага пляну загатовак, разгортваньнем калгаснага гандлю і павышэньнем ураджайнасьці.

ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. У тых калгасах, якія поўнасьцю выканалі ўстаноўленыя для іх плян дзяржаўных загатовак і ссыпалі насенныя і фуражныя фонды, безадкладна прыступіць да разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі ўсёй астатняй часткі належачых ім грошай, харчовых і кармовых прадуктаў.

НКЗ і Калгасцэнтру БССР работу па складаньні плянаў канчатковага разьмеркаваньня даходаў у калгасах за 1932 г. разгарнуць так, каб скончыць разьмеркаваньне даходаў ва ўсіх калгасах да 15 студзеня 1933 году і правесьці поўны разьлік і выдачу ўсіх належачых калгасьнікам даходаў па працаднёх не пазьней 1 лютага 1933 г.

Неабходна забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё указаньня ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб тым, што ільнаводчыя і канапляводчыя калгасы пасьля выкананьня пляну збожжазагатовак робяць разьмеркаваньне паміж калгасьнікамі 70—80 проц. ад агульнага фонду збожжа, якое належыць да разьмеркаваньня.

Астатнія 20—30 проц. фонду павінны быць разьмеркаваны паміж калгасьнікамі пасьля сканчэньня масавай апрацоўкі ільну і канапель, з улікам колькасьці працадзён, затрачаных кожным калгасьнікам на пасеў, уборку і апрацоўку гэтых культур.

Галоўнай і цэнтральнай задачай у рабоце калгасаў зьяўляецца барацьба за якасьць працы і таму ЦК прапануе забясьпечыць пры разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў правядзеньне ў жыцьцё ўказаньняў ЦК і СНК аб павышэньні і зьніжэньні ацэнкі працадня або колькасьці працадзён для брыгад і брыгадзіраў у межах ад 10 да 20 проц. у залежнасьці ад якасьці работы.

2. ЦК асабліва падкрэслівае, як баявую задачу для ўсіх калгасаў, сваячасовае выкананьне пляну загатовак і асабліва засыпку і стварэньне насенных і фуражных фондаў. У кожным калгасе пасьля выкананьня цэнтралізаванага пляну загатовак, не пазьней як праз дэкаду павінны быць створаны насенныя фонды ў разьмеры, якія-б поўнасьцю забясьпечылі насеньнем пасеўныя плошчы 1933 г.

Ускласьці непасрэдную адказнасьць за стварэньне і захаваньне насенных фондаў на старшынь калгасаў.

Даручыць РК КП(б)Б, РВК, райКК і зямельна-калгасным органам да моманту канчатковага разьмеркаваньня даходаў у кожным калгасе праверыць правільнасьць складаньня пляну разьмеркаваньня даходаў і ў прыватнасьці дасканала праверыць ці прыцягнут актыў, ударнікі і брыгадзіры да абга-

варэньня пляну разьмеркаваньня даходаў, а таксама ці праведзена абгаварэньне пляну на агульных сходах калгасьнікаў. Забараніць, дзе гэтыя мерапрыемствы не праведзены, прыступаць да разьмеркаваньня даходаў, поўнасьцю выканаўшы дырэктывы ЦК аб прыцягненьні калгасьнікаў да абгаварэньня плянаў разьмеркаваньня даходаў.

3. Абавязаць райкомы, РВК і зямельна-калгасныя органы поўнасьцю ажыцьцявіць дырэктыву аб тым, каб „пры разьмеркаваньні фуражу ўлічваць наяўнасьць жывёлы ў калгасьнікаў з тым, каб калгасьнікі, якія не атрымліваюць фуражу, або атрымліваюць менш фуражу, замест гэтага атрымлівалі іншы від натуральнай прадукцыі, ня выходзячы, аднак, за межы ўстаноўленага ў даным калгасе разьмеру натуральных выдач на працадзень“ (З пастановы ЦК УсеКП(б)).

4. Паставіць у цэнтры ўвагі партыйных і зямельна-калгасных арганізацый барацьбу супроць разбазарваньня працадзён у калгасах. Абавязаць РК і зямельна-калгасныя органы дабіцца рашучага скарачэньня адміністрацыйна-кіруючых выдаткаў, скараціўшы іх да 1,5—2 проц.

Устанавіць такі парадак, што грамадзкія работы і гаспадарча-палітычныя кампаніі, як правіла, праводзяцца калгасьнікамі ў парадку грамадзкай нагрузкі без налічэньня працадзён. Зьняць з аплаты за кошт калгасаў усіх асоб, не маючых непасрэдных адносін да калгаснай вытворчасьці (сельскія выканаўцы, работнікі каапэрацыі, члены сельсаветаў, калі яны не працуюць на калгаснай вытворчасьці, апрача настаўнікаў. Катэгарычна забараніць усім раённым і сельскім, партыйным, савецкім і калгасным арганізацыям утрыманьне за кошт калгасаў службовых асоб гэтых арганізацый, а таксама ўтрыманьне без аплаты калгасам розных упаўнаважаных і камандыраваных).

Пры разьмеркаваньні даходаў павінен быць строга праведзен такі парадак, пры якім адміністрацыйна-кіраўнічы склад калгасаў, незалежна ад колькасьці налічаных яму працадзён, не павінен атрымліваць вышэй тэй колькасьці натуральнай прадукцыі, якую атрымлівае ў сярэднім у даным калгасе калгасьнік пастаяннай брыгады, які добрасумленна выконвае на працягу году ўсе даручаныя яму работы.

Пры разьмеркаваньні даходаў неабходна з тымі гаспадаркамі, якія выйшлі з калгасаў у часе веснавой сяўбы, а таксама ў часе ўборкі,—разьлічвацца за фактычна выпрацаваную колькасьць працадзён.

5. ЦК КП(б)Б абавязвае за лік скарачэньня адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў, перагляду і скарачэньня ўсялякага роду фондаў, зьніжэньня кошту новага будаўніцтва, зьнішчэньня страт пры апрацоўцы ільну, поўнага пераворваньня бульбы і скарыстаньня ўсёй наяўнай вольнай рабочай сілы на работах па вывазцы лесу, дарожным будаўніцтве і іншых работах дабіцца таго, каб калгасьнік атрымаў ва ўсялякім выпадку ня менш таго, што атрымана на рукі калгасьнікамі ў мінулым годзе пры абавязковым, першачарговым і поўным выкананьні пляну дзяржаўных загатовак, ссыпкі насенных фондаў.

6. Адзначаючы вялікую ролю МТС, як арганізатараў і кіраўнікоў калгаснай вытворчасьці, ЦК абавязвае аддзяленьні Трактарацэнтру, асабліва дырэктароў і кіраўнікоў вытворчых вучасткаў МТС— наладзіць пастаянную дапамогу ў калгасах, што імі абслугоўваюцца, па разьмеркаваньні ўраджаю шляхам непасрэднага ўдзелу работнікаў МТС у разьмеркаваньні даходаў у кожным калгасе паасобку і на падставе правільнага разьмеркаваньня даходаў гэтага году дабіцца лепшай арганізацыі работы пастаянных вытворчых брыгад, укараненьня агратэхнікі і павышэньня ўраджайнасьці.

7. ЦК КП(б)Б лічыць работу па разьмеркаваньні даходаў у калгасах асноўнай задачай партыйных арганізацый на бліжэйшыя два месяцы, і прапануе РК КП(б)Б і вясковым ячэйкам КП(б)Б забясьпечыць самае канкрэтнае апэрацыйнае кіраўніцтва кожным калгасам па ўсіх пытаньнях, зьвязаных з разьмеркаваньнем даходаў, пры чым асаблівую ролю ў гэтай справе павінны адыграць ячэйкі і паасобныя камуністы калгасаў і МТС.

ЦК абавязвае РК КП(б)Б устанавіць такое кіраўніцтва справай разьмеркаваньня даходаў у калгасах, каб пры кожным выпадку зьніжэньня даходаў калгасу і калгасьніка ў параўнаньні з мінулым годам, быў камандыраваны адказны прадстаўнік РК КП(б)Б для высьвятленьня прычын і прыняцьця неабходных мер на месцы.

Абавязаць усе райкомы і ячэйкі КП(б)Б абгаварыць зараз пытаньне аб разьмеркаваньні даходаў у калгасах і прыняць практычныя мерапрыемствы па правядзеньні гэтай важнейшай кампаніі.

8. У мэтах арганізацыі лепшага правядзеньня разьмеркаваньня даходаў і шырокай папулярызацыі дасягнутых посьпехаў у калгасным будаўніцтве, лічыць неабходным:

а) Даручыць культпропу ЦК разам з Калгасцэнтрам, навукова-дасьледчым калгасным інстытутам, газэтамі „Зьвязда“ і „Савецкая Беларусь“ укамплектаваць ня менш 3 літаратурных брыгад. Паставіць задачай гэтых брыгад, на працягу ўсяго пэрыяду разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю не радзей аднаго разу ў пяцідзёнку на вопыце канкрэтных калгасаў разгарнуць паказ на старонках газэт узораў правільнага разьмеркаваньня ўраджаю, а таксама дрэннай практыкі ў гэтай справе.

б) Даручыць Дзяржвыдавецтву Беларусі тэрмінова выдаць масавым тыражом ня менш 2—3 папулярных брашур аб разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у калгасах за 1932 г.

в) Абавязаць Культпроп ЦК і Калгасцэнтр у дэкадны тэрмін падрыхтаваць і выдаць макет насьценнай газэты па выніках гаспадарчага году ў калгасах, прадугледзіўшы ў макеце свабоднае месца для занясеньня прозьвішчаў калгасьнікаў—сапраўдных ударнікаў калгаснай вытворчасьці, а таксама гультаёў і прагульшчыкаў, з вынікамі разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю.

г) Даручыць агітмасаваму аддзелу ЦК разам з Калгасцэнтрам укамплектаваць 2 моцныя брыгады і паслаць іх у два вясковыя раёны з абавязацельствам арганізаваць там узорную работу па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах з тым, каб перадаць іх вопыт усім астатнім раёнам рэспублікі.

д) Вылучыць па адным працаўніку з складу раённага актыву на кожныя 5—7 калгасаў, абавязаўшы іх застацца ў калгасах да поўнага сканчэньня работ па разьмеркаваньні даходаў.

е) Забясьпечыць такі парадак кіраўніцтва разьмеркаваньнем даходаў, пры якім скарга калгасьніка на няправільна праведзены з ім разьлік была-б уважліва разгледжана на працягу ня больш 3—5 дзён і па ёй былі-б прыняты адпаведныя меры.

ж) У ходзе разьмеркаваньня даходаў лічыць неабходным склікаць куставыя нарады сакратароў РК, кіраўнікоў райза і дырэктароў МТС для абмену вопытам у справе арганізацыі разьмеркаваньня даходаў і прыняцьця раду мер для паляпшэньня пастаноўкі гэтай справы.

з) У пэрыяд з 1-га сьнежня усім райкомам і райкалгассаюзам правесьці раённыя нарады жаночага актыву калгасаў з мэтай мабілізацыі жаночых мас для ўдзелу ў разьмеркаваньні даходаў у калгасах; правесьці таксама нарады ўсіх старшынь калгасаў, разам з рахунковымі працаўнікамі, па пытаньнях разьмеркаваньня даходаў у калгасах, на-хаду выпраўляючы недахопы, выкрытыя ў гэтай рабоце.

і) Даручыць ЦК ЛКСМБ распрацаваць па сваёй лініі рад канкрэтных мерапрыемстваў, зьвязаных з павышэньнем удзелу і ролі камсамольскіх ячэек у разьмеркаваньні даходаў.

9. Для канкрэтнай дапамогі калгасам у правядзеньні разьмеркаваньня даходаў даручыць Менскаму гаркому КП(б)Б і гарпрафсавету да 5 сьнежня г. г. мабілізаваць у дапамогу калгасам блізкіх раёнаў ня менш 150 рахунковых працаўнікоў, галоўным чынам за лік цэнтральных апаратаў; Гомельскаму ГК і гарпрафсавету—ня менш 75; Віцебскаму ГК і гарпрафсавету—ня менш 75; Магілеўскаму, Бабруйскаму і Аршанскаму РК і райпрафсаветам—ня менш чым па 30 рахунковых працаўнікоў. Даручыць РК адначасова мабілізаваць наяўны ў раёне рахунковы апарат для дапамогі калгасам.

Гэта мабілізацыя павінна быць праведзена за лік рахунковых працаўнікоў, ведаючых умовы калгаснай вытворчасьці і здольных аказаць сапраўдную дапамогу калгасам.

10. Абавязаць агітмасавы аддзел ЦК КП(б)Б да 1 сьнежня 1932 г. мабілізаваць 60 чалавек з ліку цэнтральнага актыву для пасылкі іх на месяц у дапамогу раёнам па правядзеньні работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах. Арганізаваць самае ўважлівае інструктаваньне гэтых работнікаў, абавязаўшы т. т. Гікало і Шаранговіча выступіць на інструкцыйнай нарадзе.

Лічыць неабходным прымацаваць да асобных раёнаў на час работ па разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у калгасах членаў Бюро ЦК і кіруючых цэнтральных работнікаў, абавязаўшы іх пабываць за гэты час у 2—3 калгасах і прыняць непасрэдны ўдзел у рабоце па разьмеркаваньні даходаў.

11. ЦК КП(б)Б папярэджвае ўсе партыйныя, савецкія, зямельна-калгасныя арганізацыі і МТС, што разьмеркаваньне даходаў у калгасах будзе праходзіць ва ўмовах кулацкага супраціўленьня і імкненьня кулацтва правесьці разьмеркаваньне па ядоцкім, ураўнілаўскім „прынцыпе“. Задача партыйных, савецкіх арганізацый арганізаваць масы на рашучы ўдар па кулацкай дзейнасьці і разгарнуць вакол разьмеркаваньня даходаў шырокую масава-палітычную работу, з прыцягненьнем калгаснага актыву і мас калгасьнікаў.

Ва ўсёй масавай рабоце неабходна асабліва падкрэсьліць задачы выкананьня калгасамі сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай (загатоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў), разгарнуць рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю, безадказнасьцю, расхлябанасьцю, абязьлічкай у рабоце калгасаў, з дробна-буржуазнымі і рвацкімі антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі сярод асобных груп адсталых калгасьнікаў. Выхаваньне ў калгасьніка пачуцьця гаспадара свайго калгасу, павышэньне яго зацікаўленасьці ў калектыўнай працы, замацаваньне асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці—брыгады, разгортваньне баявой падрыхтоўкі да вясны, барацьба са стратамі і за павышэньне ўраджайнасьці сацыялістычных палёў—усё гэта павінна быць у цэнтры агітацыйна-масавай работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах.

# Аб партдні ў сельскіх ячэйках КП(б)Б

## Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б

1. Надаючы вялізарнае значэньне адзінаму партдню ў справе разгортваньня ўнутры-партыйнай работы, ідэйна-палітычнага выхаваньня членаў і кандыдатаў партыі, большага ўдзелу іх у абмеркаваньні важнейшых пытаньняў палітыкі партыі і мясцовых гаспадарча-палітычных пытаньняў, ЦК лічыць неабходным устанавіць адзіны партдзень для ўсіх сельскіх партячэек не радзей 2 разоў у месяц.

2. Для ўмацаваньня ролі партдзён прапанаваць РК КП(б)Б і ячэйкам добра арганізаваць усю падрыхтоўчую работу да правядзеньня партсходаў (паведамленьне, наведваньне, парадак дня, падрыхтоўка дакладчыкаў да партдня, падвядзеньне палітычных вынікаў партсходаў і г. д.), забясьпечыўшы разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі і арганізацыю сыстэматычнага кантролю за выкананьнем прынятых пастаноў.

3. Правесьці спэцыяльныя інструкцыйныя нарады сакратароў сельпартячэек па пытаньні ўстанаўленьня адзінага партдня і ў далейшым устанавіць практыку пэрыядычных нарад сакратароў ячэек у РК і кустовых сходаў пры буйных калгасах, або пры апорных ячэйках па пытаньнях парадку партдня, або парадку правядзеньня партсходаў пад кіраўніцтвам прымацаваных членаў бюро РК.

Таксама ўстанавіць у ячэйках практыку інструктаваньня дакладчыкаў.

4. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на складаньне парадку дня партыйнага сходу, каб ён складаўся на грунце ўліку асноўных пастаноў партыі і ўралу, першачарговых гаспадарчых задач і ўліку запатрабаваньняў партыйных мас. Праводзіць пэрыядычна партдні з адзіным парадкам дня.

5. Даручыць аргінстру забясьпечыць абслугоўваньне правядзеньня партдня ў радзе сельячэек праз інструктарскі склад аддзелу, далажыўшы праз месяц на сакратарыяце аб выніках правядзеньня адзінага партдня ў сельпартячэйках.

6. ЦК абавязвае РК КП(б)Б тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі правядзеньня партдзён, мабілізаваўшы ўвагу ўсёй партарганізацыі на гэтым пытаньні.

7. Прапанаваць цэнтральнаму, раённаму і мясцоваму друку паўней асьвятляць падрыхтоўку правядзеньня партдня і арганізаваць шырокі абмен вопытам.

# Усебеларускі сьпіс гонару

## Заносім у сьпіс лепшых змагароў за сацыялістычны ўраджай

*(Працяг, гл. №№ 22 і 23 „Ш. К.“)*

16)—**„Камуна Чырвоны сьцяг“**, Гарадоцкага раёну, сабрала з гэктара жыта 15 **цнт**, аўсу—13 **цнт**, ячменю—12 **цнт**, у той час, як у суседніх калгасах і аднаасобных гаспадарках ураджай з гэктара: жыта ня вышэй 9 **цнт**, аўсу—10 **цнт**, ячменю—8 **цнт**.

Павышэньня ўраджайнасьці камуна „Чырвоны сьцяг“ дабілася дзякуючы дабраякаснай апрацоўкі глебы, ворыва пад зяб і своечасовай сяўбы.

17)—**Камуна „Верны шлях“**, Дрысенскага раёну, атрымала ў гэтым годзе з гэктара: жыта—11 **цнт**, пшаніцы—15 **цнт**, гароху—8 **цнт**, ільнатрасты—9 **цнт**. У мінулым годзе ўраджайнасьць у камуне была наступная: жыта—9 **цнт** з **га**, пшаніцы—10,5 **цнт**, гароху—3 **цнт**, ільнатрасты—7,5 **цнт**.

Гэтых посьпехаў камуну дасягнула правільнай апрацоўкай глебы і прымяненьнем усіх агратэхнічных мерапрыемстваў.

Камуна „Верны шлях“ поўнасьцю выканала ўсе свае абавязацельствы перад дзяржавай.

18)—**Саўгас „Імя 10-годзьдзя БССР“**, Любаньскага раёну, арганізаваны на асушаных балотах, атрымаў у гэтым годзе наступны ўраджай: ачосанай ад лісьця канаплянай саломы—40 **цнт** з **га**, што ў пераліку на валакно складае 7,5—8 **цнт** валакна з гэктара і бульбы—250 **цнт** з гэктара, морквы сталовай—270 **цнт**, буракоў сталовых—265 **цнт**, капусты—350 **цнт**, мяшанкі сеяных траў за два ўкосы лета—55 **цнт**, добраякаснага сена і проса 20 **цнт** з гэктара.

Прыведзеныя вышэй лічбы лішні раз падкрэсьліваюць аб неабходнасьці выкарыстаньня пад сельска-гаспадарчыя культурныя расьліны балотных масываў, якіх шмат ёсьць у БССР.

**Зьм. Віталін**

# ГУТАРКА НА ВАЗОХ ЧЫРВОНАГА АБОЗУ

*Нацыянальны яўрэйскі калгас „Карпачы“, Клімавіцкага раёну, на сваіх пяшчаных глебах дамогся высокага ўраджаю. Так **га** жыта дало сёлета 12 **цнт**, ячменю 8 **цнт**, бульбы 100 **цнт** ураджаю.*

Ідуць вятры
біць шыбы й кітавацъ
Наноў устаўленыя,
весьнікі марозаў,
І лісьце гнаць,
гайсаючы, на гаць,
Дзе мімаходзь,
сустрэўшы, патрапаць
Чырвоны сьцяг
чырвонага абозу...

——

... І чутна з возу першага:
— Аўжэ-ж,
Ён завінуўся піць
І ня выходзіў
Тры дні,
тры дні—
а добра жаць бяз меж!
Тры дні на ўборку
ня выходзіў збродзень!
І зараз п'е,
нібы не чалавек ён,
Нібы балея нейкая
бяздонная.
А я іду—
дармо, што я калека—
Араць, касіць,
раблю усё,
што здолею...

——

... Ідуць вятры.
Гасьцінныя гасьцінцы
Прад імі хіляць
голенае гольле.
Ідуць вятры
шляхамі бесхацінцаў
Ахопленыя
хлюпай
і сваволься.

А навокал
угрунь
рунее
рунь,
Высокая
і роўная у меру.
І я радню яе
са словам—юнь,
З многам льёньнем
юных піонэраў!..

——

І чую зноў
з пярэдняе мажары:
— Аўжэ-ж, мы любім
нашую зямлю.
Але ці возьмеце,
як той казаў,
таварыш,
Вы голымі рукамі
галаўню?..
Так і зямля.
Вы бачыце палетак,
Вы бачыце—
якая рунь харошая!
А паспрабуйце
тут вы быць улетку
І пастаяць опета
басанож вы!
Пясок—плывун.
А жыта родзіць—гай.
А бульба тут—
адна ў адну—
як гала.
І мала тут
казаць зямлі:
— Давай!
А трэ рабіць,
рабіць,
каб і давала.

——

Ідуць вятры
і хвалямі абапал
Гасьцінца
рунь адносяць у аддалеч,
І на кірмаш
з курамі йдучы бабы
Яе—„роўнюсенькую—гожанькую“—
хваляць.

——

— І гэтта—
рунь яўрэйскага калгасу,
Ляпей каторага
няма у сельсавеце.
І колькі тут
паклата сіл і часу!
І колькі гною,
шыгальля
і сьмецьця!..
Яны пацелі тут
з цямна і да цямна.
Яны казалі:
— Быў-бы ураджай нам!..
І от, кажу я—
бульба як адна,
І рунь—як струначкі,
і жыта—гаем...

——

Ратунак ратая—
зямля,
Але й ратай—
яе такі-ж ратунак.
Шануй яе,—
і ўвойдзе удвая
Павышаны ўраджай
у пуні...
А мо' ты завінешся,
браце мой,
Піць, ленавацца, браце мой,
дык май-жа:
— Хто больш і лепш працуе—
той
І болей атрымае.

1932 г.

# Забясьпечыць веснавую сяўбу сваім уласным насеньнем

## Руйнуючы ўдар па клясаваму ворагу — кулаку, які імкнецца сарваць стварэньне насеннага фонду

Надзвычайна важным мерапрыемствам ува ўсёй сыстэме мерапрыемстваў па падвышэньню ўраджайнасьці калгасных палёў і павялічэньні валавой прадукцыі зьяўляецца правільная і своечасовая падрыхтоўка добраякаснага насеньня і захаваньне яго бяз страт.

Мы маем цэлы шэраг прыкладаў, калі паасобныя калгасы ў мінулым годзе з прычыны нядбайных адносін, што мяжаваліся часта са шкодніцтвам, пад рознымі формамі разбазарвалі насеньне, зьмяншаючы насенфонды або нясучы вялізарнейшыя страты яго пры хаваньні, у сувязі з чым у гэтых калгасах вялікія плошчы засталіся незасеянымі.

Зусім зразумела, што гэта работа клясавага ворага-кулака, які зацікаўлены ў тым, каб падарваць гаспадарчую моцнасьць калгасу, дамагаецца стварыць у калгасах такія ўмовы, каб менш засыпаць насеньня, а засыпанае зьнішчыць, спаліць, раскрасьці, проста сапсаваць.

Справа калгаснага актыву і шырокай калгаснай грамадзкасьці нанесьці руйнуючы ўдар па такіх спробах клясавага ворага. Пасеўныя плошчы 1933 г. ў калгасах павінны быць забясьпечаны ўласным добраякасным насеньнем поўнасьцю.

### Поўнасьцю засыпаць насенфонды ўласным насеньнем

„Ніякай насеннай ссуды для пасеву ўвесну 1933 году выдадзена ня будзе і патрэбная колькасьць насеньня ў кожнай гаспадарцы павінна быць засыпана з уласных рэсурсаў" (з інструкцыі Наркамзему СССР). Гэта ставіць перад кожным калгасам баявую задачу—на падставе рашучай барацьбы са спажывецкімі настроямі адсталай часткі калгасьнікаў забясьпечыць уласным насеньнем пасеў кожнай культуры ў разьмерах, вызначаных плянам сяўбы. Пасьля выкананьня плянаў здачы (продажу) дзяржаве кожны калгас павінен абгаварыць на нарадзе актыву калгасу і агульным сходзе плян сяўбы на 1933 г. нормы высеву і патрэбную колькасьць насеньня па кожнай культуры, арганізаваць абмалот і безадкладную засыпку насенфондаў. Разьмеркаваньне натуральнай часткі ўраджаю сярод калгасьнікаў па працаднёх праводзіць толькі пасьля фактычнай засыпкі ў сьвірны патрэбнай колькасьці насеньня для пасеву, насеньня ачышчанага, зусім гатовага да высеву.

Насенфондам, павінен быць забясьпечан плян пасеўнай плошчы, дадзены Райкалгассаюзам і МТС па кожнай культуры паасобку з улікам магчымага пашырэньня пасеўнай плошчы. Будуць выпадкі, калі ў калгасе зусім ня будзе, або ёсьць у недастатковай колькасьці насеньне якой-небудзь культуры, якая прадугледжваецца плянам пасеву на 1933 год. У 1932 г. яна або зусім не высявалася, высявалася на нязначнай плошчы або адчуваўся значны недарод яе. У такіх выпадках калгас павінен забраніраваць увесь ураджай гэтай культуры выключна на насеньне. Нехапаючую колькасьць насеньня гэтай культуры калгас павінен засыпаць насеньнем той культуры, якая ў калгасе маецца ў разьмерах дастатковых для абмену яе з іншымі гаспадаркамі на неабходную колькасьць нехапаючай культуры. Абмен гэты павінен быць праведзен безадкладна.

Такія выпадкі будуць наглядацца галоўным чынам у адносінах насеньня бабовых, пшаніцы, лубіну, канюшыны і іншых культур, пасеў якіх у 1932 г. адносна не раўнамерна быў разьмеркаваны па калгасах і пасеў якіх у 1933 годзе значна пашыраецца.

Устанаўліваючы разьмеры насенфондаў, даканала павінны быць абгавораны нормы высеву, каб пазбавіцца наглядаўшыхся ў мінулым годзе ў некаторых калгасах выпадкаў ізрэжаных пасеваў і наадварот. Няправільна ўстаноўленыя нормы высеву цягнуць за сабой паменшаныя або павялічаныя насенфонды.

Разьмер насенфондаў павінен устанаўлівацца з ачышчанага зусім гатовага да высеву насеньня, каб не ўпасьці ў самападман, бо да ачысткі цяжка вызначыць процант адыходу.

Уноў уступаючыя ў калгасе члены павінны ўносіць у калгасны насенфонд такую колькасьць насеньня, якая забясьпечыла-б засеў прыпадаючай на яго долю ў калгасе плошчы па кожнай культуры.

### Арганізаваць страхфонды

З практыкі мінулых гадоў бачна, што ў шмат якіх раёнах і калгасах наглядаліся вымачкі, выправаньні і іншыя пашкоджаньні пасеваў, якія трэба было перасяваць. Ёсьць выпадкі значнага недароду паасобных культур. Для забесьпячэньня перасеву згніўшых ад навальных бядот пасеваў, кожны калгас павінен стварыць страхфонды насеньня ў разьмерах ня менш 10 проц. ад патрэбнай колькасьці насеньня. Страхфонды ствараюцца з насеньня збожжавых, і за выключэньнем бульбы па дагаворанасьці калгасаў аднаго сельсавету могуць ссыпацца пры адным з гэтых калгасаў з адпаведнай арганізацыяй аховы іх ад пажару, краж і псаваньня. Арганізацыя страхфондаў дасьць магчымасьць калгасам аднавіць загінуўшыя пасевы.

### Забясьпечыць сяўбу добраякасным насеньнем

Для насенфондаў неабходна адабраць лепшае насеньне, з лепшых вучасткаў па ўраджаю, з найбольш буйных зернем. Пры чым, з вучасткаў, якія ўбраны ў добрае надвор'е, зусім дасьпеўшым і найменш пашкоджаным. Насенфонды павінны быць створаны ў першую чаргу з гатунковага, або палепшанага насеньня тых гатункаў, якія апраўдалі сябе ў сваей або суседняй гаспадарцы на працягу шэрагу гадоў, як гатункі найбольш устойлівыя, даючыя больш высокі ўраджай.

Калгасы, якія ня маюць гатунковага насеньня, павінны сваё звычайнае абмяняць на гатунковае з суседнімі калгасамі, у якіх яно ёсьць. Апошнія-ж увесь ураджай гатунковых пасеваў пасьля засыпкі насенфондаў павінны абмяняць на звычайны. Рашуча змагацца з разбазарваньнем гатунковага насеньня на кармавыя і спажывецкія мэты.

Засыпку насенфондаў трэба рабіць толькі ачышчаным насеньнем, пры чым пшаніцу, ячмень, авёс—праз сартыроўку і трыер, лён—праз ільнатрашчотку і ільняны трыер, канюшыну — праз спэцыяльную канюшынную сартыроўку „Кускута".

Ужо зараз калгасы павінны клапаціцца аб поўным пратручваньні насеньня, пашкоджанага галаўнёй (сажай), для чаго патрэбна зьвязацца з машына-зьнішчальнымі станцыямі, якія забясьпечваюць сродкамі пратручваньня (атрутамі і апаратурай). Сухое пратручваньне павінна быць праведзена не пазьней як да 15 лютага.

Пры ссыпцы насенфондаў у сьвірны нельга ссыпаць у адзін засек сухое, добра дасьпеўшае насеньне з насеньнем вільготным, недасьпеўшым. Недасьпеўшае, вільготнае насеньне больш хутка плясьнее, як кажуць „самасагравaецца" і псуе сухое добрае насеньне. Нельга пры ссыпцы зьмешваць насеньня розных культур і асабліва розных гатункаў аднэй і тэй-жа культуры і гатунковага насеньня са звычайным.

Засыпаючы насенфонды кожны калгас павінен узяць пробы і накіраваць па паказаньнях Райза ў насенна-кантрольную станцыю, або на раённы праверачны пункт. Каб не абязьлічыць насенфондаў, апошнія павінны быць ссыпаны зусім асобна ад фуражных і іншых фондаў.

## Штодзённым наглядам захаваць насенфонды ад страт

У часе хаваньня насеньне патрабуе асабліва пільных наглядаў і дасканалага догляду за ім. Насеньне без догляду можа сапсавацца і пакінуць калгас без насеннага матар'ялу, што можа стварыць пагрозу зрыва пасеўкампаніі.

Самым небясьпечным ворагам насеньня зьяўляецца плесень. Гэта—грыбкі, якія ў спрыяючых вільготных умовах вельмі хутка распаўсюджваюцца і псуюць насеньне. Вільгаць — асноўная прычына псаваньня насеньня.

Ачышчанае і адсартаванае насеньне засыпаецца ў падрыхтаваныя сьвірны насыпам таўшчынёй ня больш 2-х мэтраў для сухога насеньня. Для больш вільготната насеньня таўшчыня адпаведна зьніжаецца, і для насеньня лубіну, вікі яна не павінна быць больш 0,5 мэтра ў добра праветраных мясцох. Пры хаваньні насеньня ў мяшкох, апошнія складаюцца ў штабелі радкамі крыж на крыж, вышынёй—ня больш як 6—8 радкоў. Насеньне гародніны, кармовых караньплодаў, сэрадэлі лепш хаваць у мяшкох, падвешаных да столі.

За насеньнем устанаўліваецца пільны догляд. Штодзенна мацаньнем або проста абструганым кійком правяраюцца засыпкі. Самае нязначнае награваньне кійка паказвае на тое, што насеньне пачало саграваццa. Неабходна зараз-жа выгарнуць яго з засыпі, разаслаць тонкім пластом на падлозе і некалькі разоў пералапаціць да поўнага яго ахаладжаньня. Засеку трэба праветрыць і прасушыць скразьнікамі.

З асаблівай пільнасьцю калгасы павінны наглядаць за становішчам капцоў і скляпоў з бульбай і караньплодамі. Ня менш, як два разы ў месяц трэба апускаць тэрмомэтр у вэнтыляцыйныя трубы, або спэцыяльна ўстаноўленыя ў ворах бульбы трубкі. Пры тэмпэратуры ніжэй 0,5 град. цяпла бурт трэба ўцяпліць, а пры тэмпэратуры вышэй 3 град. цяпла (бульба пад пагрозай загніеньня) бурт трэба ўскрыць і перабраць бульбу, але толькі ў цёплае больш спрыяючае гэтаму надвор'е.

## За дасканалы ўлік і пільную ахову насенфондаў

Рознымі мэтадамі кулак імкнецца сарваць арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Мы маем шэраг выпадкаў падпалу, пакражы калгаснай маемасьці. Пільнай аховай, устанаўленьнем сталай варты асабліва ўначы праз спэцыяльна вылучаных для гэтага калгасьнікаў-вартаўнікоў, забесьпячэньнем насеннахавальнікаў супроцьпажарнымі прыладамі, калгасы павінны забясьпечыць насенфонды і страхфонды ад пажараў і пакраж.

Надзвычай важным мерапрыемствам зьяўляецца арганізацыя дакладнага ўліку насенфондаў і страхфондаў. Кладаўшчык павінен прымаць і выдаваць насеньне выключна па квіткох з запісам у адпаведны сшытак, дзе рабіць адзнакі і аб якасьці насеньня.

## Вылучыць адказных асоб за насенфонды

Цалкам адказнымі за падрыхтоўку насеньня і насенхавальнікаў, за нагляд і догляд, ахову і ўлік насенфондаў і страхфондаў павінны і зьяўляюцца пэрсанальна старшыні калгасаў і вылучаныя для гэтай мэты члены праўленьня.

Кожны месяц ня менш 2-х разоў рэўкамісія калгасу павінна рабіць кантрольны агляд становішча насенфондаў і кожны раз складаць аб гэтым акт, прыцягваючы да гэтай справы калгасны актыў і шырокую калгасную грамадзкасьць.

**„Калгасныя насенныя фонды зьяўляюцца недатыкальнай грамадзкай уласнасьцю, яны ня могуць выдаткоўвацца ні на якія іншыя мэты, акрамя сяўбы. За выдаткаваньне насенных фондаў не па прызначэньні віноўных прыцягваць да крымінальнай адказнасьці, як за парушэньне пастановы ЦВК і СНК СССР аб умацаваньні грамадзкай уласнасьці"** (з пастановы Наркамзему СССР).

**А. Лашкевіч**



Старш. Слабадзкога сельсавету тав. Шаранет — лепшы ўдарнік па мабілізацыі сродкаў

# Настойліва змагацца за высокі сацыялістычны ўраджай

## Павышэньне ўраджайнасьці забясьпечыла дабрабыт кожнага калгасьніка

(*Віцебскі раён*)

Пры арганізацыі ў сакавіку 1930 г. калгас „Імя Чырвонай арміі“ уяўляў нязначную адзінку з 27 сямей, якія абагулілі 27 кароў, нязначны інвэнтар. Але за 2 гады існаваньня калгас вырас і стаў у шэрагі буйных калгасаў Віцебшчыны. У склад калгасу ўлілося 6 вёсак на плошчы 884 **га**. Налічваецца ўжо 182 сям'і. Калгас мае абагуленых 150 кароў і 150 коняй. Тэрытарыяльнае знаходжаньне калгасу пры самім Віцебску, стаўшым адным з буйных пралетарскіх цэнтраў БССР, ставіць перад калгасам сталае заданьне забясьпечыць рабочых гароднінай і мае гародняводны напрамак.

У калгасе працуюць 5 сталых гародніх брыгад, акрамя палявых, парніковай, жывёлагадоўчай, будаўнічай, сіласаваньня, майстэрань (сьлесарна-рамонтнай і шавецкай) і сталоўкі.

У гэтым годзе калгас дабіўся значных дасягненьняў у сваёй працы. Але адначасова заўважваецца многа момантаў, на выпраўленьне якіх калгасу неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу. Калгас яшчэ ў мінулую восень практыкаваў пасеў сталовай морквы на зіму і атрымаў добры ўраджай (да 17—18 т.), і шмат раней, чым ад звычайных вясеньніх пасеваў. На адным вучастку калгас сеяў моркву двухстужкавым радковым пасевам, частку прарэджваў—адзін раз і частку—два разы. Вынікі атрымаліся добрыя—ураджай таварнай маркоўкі даў да 25 тон з **га**, акрамя скарыстанай раней пры прарэджваньні, якая ня ўключана ва ўлік.

Калгас правёў досыць удалы вопыт пасадкі памідораў з падвязкай да падсеянага з расадай сланэчніка. Замяніўшы пастаноўку палак сланэчнікам, ураджай памідораў на вучастку даў каля 66 **цнт**, ня менш чым на другіх вучастках, акрамя выручкі звыш 600 руб. за галоўкі сланэчніка і з скарыстаньня сьцябловай масы на сілас. Вопыт, які варта пашырыць і ў другіх калгасах.

Пасьпяхова вядзецца ў калгасе самазабесьпячэньне насеньнем. Загатоўлена значная колькасьць насеньня гуркоў, памідораў, цыбулі і інш.

У калгасе яшчэ не ўстаноўлен сталы севазварот, адсутнічаюць сталыя сарты культур. Зональнай пладагароднай станцыі патрэбна будзе даць калгасу вынікі сортаспрабаваньня па Віцебшчыне. Пытаньне ўгнаеньня ў калгасе вырашаецца да гэтага часу ня зусім здавальняюча. Блізкасьць знаходжаньня да гораду павінна была быць больш рацыянальна скарыстана для вывазкі гною, розных адкідаў і фэкаляў. У брыгадах праца праводзіцца зьдзельна. Але вялікім недахопам зьяўляецца тое, што па некаторых брыгадах ня ўлічваецца праца кожнага калгасьніка і кожнай калгасьніцы паасобку, нават там, дзе гэта магчыма, што адбіваецца на стымуляваньні павышэньня вытворчасьці працы і часткова тармозіць выхад на працу ўсіх калгасьніц наогул. Назіраюцца выпадкі, калі некаторыя калгасьніцы ня выходзяць на працу і брыгадзірамі па гэтым пытаньні не праводзіцца ніякай працы.

Недастатковая арганізацыя працы мела адбітак таксама на выкананьні свайго агульнага вытворчага пляну. Параўнаўшы вытворчыя заданьні па сяўбе з іх фактычным выкананьнем па гароднім культурам будзем мець наступны малюнак: брыгада Батракоўскай—79 проц. пляну, 1-я Альгоўскай—49 проц., 2-я Альгоўскай—49 проц., Савенкаўскай—43 проц. Па некаторых культурах выканана 35—60 проц. заданьня, па сталовай маркоўцы 100 проц. і перавыканана ў некаторых брыгадах па бульбе і караньплодам.

Вялікім недахопам у працы калгасу зьяўляецца тое, што машыны не скарыстоўваюцца, няма дастатковага імкненьня мэханізаваць працу тых працэсаў, на якія маюцца машыны ў калгасе. Машыны гэтыя знаходзяцца бяз усякага руху тады, калі ў калгасе адчуваецца недахоп у рабсіле. Ёсьць 2 радковыя сявяркі, а пасеў праводзіўся ўручную, ёсьць бульбакапалкі, завод якіх знаходзіцца тут-жа ў Віцебску, а яны не скарыстоўваліся, бульба капалася ўручную, пасьпешна, часта з вялікімі стратамі.

Рэалізацыя сваёй вытворчасьці калгасам праводзіцца досыць арганізавана. Вайсковыя і рабочыя загатавіцельныя арганізацыі прыяжджаюць на гароды і склады калгасу за гароднінай. Калгас-жа мае склад і ларок у горадзе. На 1-е кастрычніка было рэалізавана гародніны раньняй з парнікоў і позьняй з гародаў на 184 тыс. руб. Калгас да 1 кастрычніка выдаў калгасьнікам авансам па 2 руб. і 600 гр. жыта на працадзень.

З культбытавых установаў у калгасе ёсьць ясьлі, дзіцячы сад, школа-чатырохгодка, якая ў гэтым годзе рэарганізуецца ў сямігодку.

**М. Сраговіч**

# На палескіх балотах сацыялістычны горад

*(Любаньскі раён)*

Вялізарнейшая колькасьць балот у БССР, каля 20 процантаў ад усёй тэрыторыі, зьвярнула на сябе асаблівую ўвагу Савецкага ўраду. Сваячасова было пастаўлена пытаньне аб хутчэйшым скарыстаньні гэтых закінутых зямель.



Рабочы пасёлак саўгасу „імя 10-годзьдзя БССР“

Савецкі ўрад бальшавіцкімі тэмпамі стаў інтэнсыўна абсушаць балоты і арганізоўваць на іх буйныя сацыялістычныя спэцыялізаваныя гаспадаркі. У БССР арганізаваны такія буйныя гаспадаркі на балотных глебах у поймах рэк Палата, Талькі, Брагінкі, Арэсы і інш. Канкрэтным прыкладам шырокага скарыстаньня мэліарацыйных балотных кінутых зямель пад розныя сельска-гаспадарчыя культуры зьяўляецца саўгас імя Х-цігодзьдзя БССР, які арганізаван у пойме ракі Арэсы на плошчы 8.700 *га*. Раней непраходныя Мар‘інскія балоты, на якіх знаходзіцца саўгас „Х-годзьдзя БССР“, сталі лепшымі палямі для каштоўных сельска-гаспадарчых культур, як каноплі, караньклубняплоды, капуста, сілосныя культуры, лугі, штучныя выпасы і зернавыя.

Яшчэ ў 1928 годзе да арганізацыі саўгасу на гэтым масыве былі пасеяны пробныя пасевы розных сельска-гаспадарчых культур на плошчы 30 *га*. У 1929 г. саўгасам была засеяна 300 *га*, у 1930 г.—1.500 *га*, у 1931 г.—2.000 *га* і 1932 г.—2.500 *га*. Вядучай культурай з 1931 г. у саўгасе зьяўляюцца каноплі. У 1931 г. было засеяна канапель звыш тысячы гэктараў, а ў 1932 г. каля тысячы. У 1931 г. з прычыны ігнараваньня асноўных агратэхнічных мерапрыемстваў (кепская асушка глебы, няўспашка на зяб і інш.) ураджай на значнай частцы тэрыторыі быў слабы. Недахопы 1931 г. былі ўлічаны і ў бягучым 1932 г. мы атрымалі на значнай частцы тэрыторыі добрыя і здавальняючыя ўраджаі канапель. 3—4 тоны ачосанай ад лісьця канаплянай саломы з *га* пры зжынаньні ў час уборкі жняяркай, што ў пераліку на валакно складае 6—8 *цнт* з *га*.

Па дасьледчых пасевах атрыман ураджай 5—6 тон ачосанай саломы і каля тоны насеньня з 1 *га* пры ўборцы жняяркай, што ў пераліку на валакно складае 10—12 *цнт*. Дасьледамі, якія праводзіліся апорным пунктам Усесаюзнага Навукова-Дасьледчага Балотнага інстытуту ў саўгасе ўстаноўлена, што каб атрымаць добрыя ўраджаі неабходна прытрымлівацца наступных агратэхнічных мерапрыемстваў.

Добра абсушыць балота, каб яно не затаплялася вясеньнімі паводкамі, каб узровень грунтовае вады перад пасевам стаяў ня бліжэй ад паверхні глебы, як на 60—70 *см*. Пры такой абсушцы ўраджай атрымоўваецца каля 4—5 тон ачосанай саломы з *га*, а пры стаяньні грунтовае вады перад пасевам на глыбіні 40—50 *см* ураджай атрымоўваецца ў 1—1,5 тоны саломы з 1 *га*.

Ворыва глебы павінна рабіцца выключна на зяб. Зяблівае ворыва павышае ўраджай на 40—50 проц. параўнаўча з вясеньнім ворывам.

Сваячасовае—за 10 дзён да пасеву—унясеньне штучных угнаеньняў зьяўляецца абавязковым з разьлікам 8—9 *цнт* (13 проц.) сільвініта, альбо роўналежнай колькасьці іншых калійных угнаеньняў, а таксама 3—4 *цнт* супэрфасфата ці тама-



Хатка паляшука Дзям‘яна Нагорнага. Зараз на гэтым месцы пабудаваны пенька-завод саўгасу „імя 10-годзьдзя БССР“

шлаку; а пры слаба раскладзеным і недасушаным тарфяніку 1—1,5 **цнт** сернакіслага амонія. На добра асушаным, добра раскладзеным і апрацаваным тарфяніку азоцістае ўгнаеньне ўносіць ня трэба.

Лепшы тэрмін пасеву канапель з 15 мая па 15 чэрвеня. Ні ў якім разе недапушчаць пасеву канапель у ліпені месяцы, аб чым яскрава сьведчаць наступныя лічбы:

| Тэрмін пасеву | Ураджай на *га* ў *цнт* | | Адносны ўраджай | |
|---|---|---|---|---|
| | Саломы | Зерня | Саломы | Зерня |
| 20-га мая . . . | 32,1 | 11,3 | 100 % | 100 % |
| 20-га чэрвеня . . | 19,2 | 6,8 | 59,8 | 60,0 |
| 20-га ліпеня . . | 15,9 | — | 49,5 | — |

Ліпеньскія пасевы канапель, мала таго, што даюць на 50 проц. ніжэйшы ўраджай саломы параўнаўча з майскімі, але не даюць мажлівасьці атрымаць насеньня з тае прычыны, што для пасьпяваньня канапель патрэбна 4 месяцы спачатку пасеву да ўборкі. Як позьні пасеў дае кепскія вынікі, так і раньні пасеў канапель на балоце таксама дае нездавальняючыя вынікі. Так, пасеў канапель на балоце ў ІІ-й палове красавіка даў нізкі ўраджай.

Сеяць каноплі трэба добраякасным насеньнем і лепшымі гатункамі. Лепшымі гатункамі канапель для балотных глеб лічацца: на зелянец (каноплі ўбіраюцца, як толькі адцьвітуць плоскані)—каўказкія і італьянскія; калі-ж каноплі скарыстоўваюцца на насеньне і валакно, дык лепш сеяць гатункі канапель: тручаўскі, залатанойскі, стараасколькі і праскураўскі.

Трэба адзначыць, што калі будуць праведзены ўсе вышэйпамянёныя агратэхнічныя мерапрыемствы якія неабходна для таго, каб атрымаць добры ўраджай канапель, дык для ўсіх іншых сельска-гаспадарчых культур гэтыя ўмовы будуць таксама спрыяючымі. Пад усе астатнія культуры, акрамя канапель, ня трэба ўносіць азоцістых угнаеньняў, а таксама можна зьнізіць па аднаму цэнтнэру калійных і фосфарных угнаеньняў пад травы і зернавыя культуры на Мар'інскіх балотах.

З другіх культур, якія сеяліся ў саўгасе „імя Х-годзьдзя БССР“ на балотных глебах, асабліва даюць добрыя ўраджаі корань-клубняплоды, капуста, травы, проса. Так, у гэтай гаспадарцы атрымоўваюцца ўраджаі: бульбы каля 25 **т** з **га**, морквы сталовай—27 **т** з **га**, буракоў сталовых—27 **т** з **га**, капусты 33—35 **т** з **га**, мяшанкі сеяных траў даюць за 2 ўкосы ў лета 50—55 **цнт** добраякаснага сена з **га**. Вельмі добрыя вынікі атрымаліся пры пасеве проса на пласту (па першай успашцы) на тарфяніку каля 2 **т** добраякаснага зерня з **га**. Трэба адзначыць, што калі проса сеецца па пласту ці пасьля канапель, дык палоць проса ня прыходзіцца, бо яно ў гэтых выпадках бывае зусім чыстае ад сарніны. Словам, усе тыя культуры, якія патрабуюць добрай глебы, як кажуць, гароднай глебы, яны добра ўдаюцца на балотных глебах.

Гэта лішні раз падкрэсьлівае аб неабходнасьці скарыстаньня балотных бросавых глеб пад розныя сельска-гаспадарчыя культуры.

Побач з шпаркім асваеньнем бросавых балотных зямель у саўгасе „Х-годзьдзя БССР“ ішло шпарка і будаўніцтва. На сёнешні дзень пабудавана два двухпавярховых дамы-камуны, 9 двухпавярховых дамоў, вялізарнейшы 2-х павярховы клюб, школа, больніца, аптэка. Пабудавана добрая канюшня на 100 галоў коняй, скотны двор для буйнай рагатай жывёлы на 400 галоў, вялізарнейшы пакгауз для штучнага ўгнаеньня і іншых грузаў. Пабудаван і добра абсталяваны завод па першапачатковай перапрацоўцы валакна канапель і цэлы рад іншых дапаможных будынкаў. Маецца моцны трактарны парк—50 трактароў. Трактарная майстэрня, гараж, нафта-база і інш. Пабудавана і пушчана ў ход электрастанцыя.

У 1930 г. ў саўгасе арганізаван вячэрні рабочы факультэт, а ў 1931 г. арганізаван саўгасвуч.

За 3 гады існаваньня саўгасу „Х-годзьдзя БССР“ створан культурны цэнтр Палесься, дзе рыхтуюцца кадры па культуры балот, кадры мэханікаў па трактарнай справе, брыгадзіраў-калёнаважатых і трактарыстых. Саўгас „імя Х-годзьдзя БССР“ зьяўляецца ўсесаюзнай практычнай школай, якая ўзорна паказвае, як патрэбна працаваць і змагацца на ўноў асвоеных балотных глебах, каб атрымаць добрыя вынікі.



Пераносная электраматорная будка ў калгасе Тупава, Віцебскага раёну.

Парахневіч.

# Сэрадэлю—на службу павышэньня ўраджайнасьці

Адным з добрых сродкаў барацьбы за ўздым ураджайнасьці сацыялістычных палёў і ўзмацненьня кармовай базы, для забесьпячэньня шпаркага разьвіцьця жывёлагадоўлі зьяўляюцца пасевы сэрадэлі.

Асабліва вялікую ролю ў стварэньні кармовай базы можа адыграць сэрадэля пры арганізацыі на лёгкіх глебах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі з жывёлагадоўчым напрамкам. Сэрадэля вельмі карысная расьліна і скарыстаць яе можна розным чынам.

Сэрадэля дае вялікі ўрэджай добрай якасьці сена да 30 *цнт* з *га* і нават вышэй, а па спажыўнасьці лічыцца лепшай за канюшыну. На лёгкіх глебах сэрадэля абганяе па ўраджайнасьці віка-аўсяную мешанку. Нават сэрадэлю сеюць у мешанцы з віка-аўсом, і ў гэтым выпадку яна павышае ўраджай і паляпшае якасьць сена. Напрыклад, Новазыбкаўская вопытная станцыя ў сярэднім за 5 год атрымала ўраджай сэрадэлевага сена 19,8 *цнт* з га, сена з мешанкі сэрадэля—віка-авёс атрымана 15 *цнт*, а віка-аўсянага сена—толькі 12,7 *цнт*. Усе гэтыя культуры займалі месца ў папары. У адно лета зьбіраюцца два ўкосы сэрадэлі.

Вельмі добрую зялёную масу па колькасьці дае сэрадэля для сіласаваньня. Яна зьяўляецца таксама добрай меданоснай расьлінай.

Сэрадэля дае значнае павышэньне ўраджайнасьці, калі яе заараць на зялёнае ўгнаеньне. Чысты пасеў сэрадэлі ў папары, калі яго заараць на зялёнае ўгнаеньне, дае такі эфэкт, як 180 *цнт* гною на *га*.

Таксама падсеўная завароная сэрадэля, як зялёнае ўгнаеньне, значна ўздымае ўраджайнасьць наступных культур. Новазыбкаўская вопытная станцыя атрымала ўраджай бульбы 161 *цнт* з *га*, калі бульба сеялася пасьля ячменю; а калі бульба сеялася пасьля ячменю з падсевам сэрадэлі на зялёнае ўгнаеньне, то ў гэтым выпадку ўраджай бульбы атрымаўся ў 235 *цнт* з *га*.

Значыць, акрамя самастойнага пасеву сэрадэлі, яе можна падсяваць, як і канюшыну па жыту, ячменю ці інш. збожжу. Пасьля збору збожжавых культур адбываецца галоўны рост сэрадэлі, ураджай якой зьбіраецца ў гэтым-жа годзе ўвосень, або зялёная маса заворваецца на ўгнаеньне. Сэрадэлю добра скарыстаць для выпасу жывёле. Пасьля першага страўліваньня яна адрастае ў другі раз. Такім чынам, пасевы сэрадэлі спэцыяльна для выпаса даюць вельмі добрую пашу да глыбокай восені, бо сэрадэля замаразкаў не баіцца і расьце да самага выпаданьня сьнега.

Найлепшыя вынікі даюць пасевы сэрадэлі на пяшчаных глебах. Больш прыгодныя для пасеваў сэрадэлі—зьвязаныя пяшчаныя глебы, глiністыя пяскі і супесі. Толькі на глебах, якія маюць у сваім складзе шмат вапны, не патрэбна высяваць сэрадэлі, бо на такіх глебах яна расьце дрэнна.

Сэрадэля, як расьліна нятрэбавацельная да ўгнаеньня, і на зьвязаных глебах можа высявацца бяз усякіх угнаеньняў, але, вядома, што на ўгноеных глебах ураджаі атрымліваюцца лепшыя.

Для атрыманьня большых ураджаяў сэрадэлі на пульхнапяшчаных глебах, лепш высяваць яе на палёх, якія мелі ўгнаеньні пад папярэднія культуры або падсяваць пад угнаеньне жыта, ячменю і інш. збожжа.

Вельмі карысна пакласьці пад сэрадэлю штучныя ўгнаеньні на пяшчаных глебах—калійныя і фасфарытныя. Асабліва добры ўплыў атрымліваецца ад унясеньня калійнага ўгнаеньня (калійная соль або драўляны попел). Драўлянага попелу кладуць прыблізна 9 *цнт* на *га*, а калійнай солі 1,5—2 *цнт*.

Зараз, у зімовы час неабходна нарыхтаваць гэтыя ўгнаеньні, каб увесну ня было затрымкі з пасевам, бо сэрадэля дае большыя ўраджаі пры раньніх пасевах.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на загатоўку попелу. Гэты від угнаеньня вельмі танны і карысны. Кожная гаспадарка павінна зьбіраць попел. Калгасы і саўгасы павінны прыстасаваць бочкі або іншыя рэчы для збору попелу. Патрэбна памятаць, што попел, як калійнае ўгнаеньне, вельмі патрэбны для нашых беларускіх глеб, і пры ўгнаеньні ня толькі пад сэрадэлю, а і пад іншыя культуры дае павышэньне ўраджайнасьці.

Каб атрымаць добрыя ўраджаі сэрадэлі, трэба глядзець, каб дробнага, шчуплага і недасьпелага насеньня ня было ў пасеўным матар'яле. Таксама патрэбна аддзяліць розныя інш. прымешкі ад насеньня сэрадэлі—для чаго робіцца ачыстка і сартыраваньне (на веялцы, сартыроўцы, трыумф). Неабходна таксама зрабіць пробу на ўсхожасьць. Добрым насеньнем да пасеву будзе такое, якога ўсхожасьць больш за 80 проц., гэта значыць з кожных 100 зярнят—80 павінны ўзыйсьці.

Калі сэрадэля высяваецца першы раз на вучастку, дык трэба зрабіць так званае „заражэньне" глебы клубянковымі бактэрыямі. На корнях расьліны маюцца клубянкі, у якіх знаходзяцца мікраорганізмы, якія паглынаюць азот з паветра. Гэты азот вельмі неабходны для добрага разьвіцьця сэрадэлі. Толькі на заражонай клубянковымі бактэрыямі глебе бываюць вялікія ўраджаі сэрадэлі.

Заражэньне глебы клубянковымі бактэрыямі робіцца на кожным полі толькі адзін раз, калі сэрадэля высяваецца ўпяршыню; а потым яны доўгі час захоўваюць сваю жыцьцяздольнасьць.

Заражэньне глебы клубянковымі бактэрыямі робіцца праз папярэдняе заражэньне пасеваў. Гэта значыць у папярэднюю культуру (прычым, папярэднікам пры даным спосабе павінны быць збожжавыя расьліны) падсяваецца 5-10 *кгр* насеньня сэрадэлі, і ў наступным годзе можна сеяць сэрадэлю, ужо не заражаючы глебу.

Другі спосаб заражэньня глебы робіцца пры дапамозе камбінiраванай сявяркі. Пры гэтым спосабе насеньне ссыпаецца ў насенную скрынку, а зямля засыпаецца ў тукавую скрыню. Зямлю, якая насыпаецца ў тукавую скрыню, патрэбна браць з таго вучастку, дзе ўжо засявалася сэрадэля, пры гэтым патрэбна 2—4 *цнт* зямлі на *га*.

Трэці спосаб заражэньня робіцца шляхам перамешваньня глебы, узятай з таго поля, дзе раней высявалася сэрадэля з насеньня. Тут патрэбна 3-4 *цнт* зямлі на *га*. Зямля ў гэтым выпадку зьлёгку змачваецца вадой і ў гэтай масе перамешваецца насеньне. Перамешваючы трэба глядзець, каб насеньне ня зьліпалася ў камякі. Гэтае заражэньне робіцца перад самым засевам.

**Н. Бойка.**

# Праз культуру лубіна падвысім ураджай

Асноўным агратэхнічным мерапрыемствам па падвышэньню ўраджайнасьці на пяшчаных і супяшчаных глебах зьяўляецца правільная арганізацыя ўгнаеньня палёў. Ауладаць агратэхнікай угнаеньня палёў,—задача кожнага калгасьніка і рабочага саўгасу.

Гной зьяўляецца найлепшым сродкам угнаеньня лёгкіх глеб, але яго не заўсёды хапае ў гаспадарцы. Недахоп гною лёгка і з вялікім посьпехам можна замяніць пасевам лубіна на зялёнае ўгнаеньне. Зялёнае лубінавае ўгнаеньне зьяўляецца крыніцай такога ўнясеньня арганічнай матэрыі ў глебу і лепшым сродкам да павялічэньня ўраджайнасьці кепскіх малаўраджайных глеб.

Практыка замежных гаспадарак, дадзеныя дасьледчых устаноў, а таксама досьледы паасобных саўгасаў і калгасаў, упэўнена гавораць аб вялікім значэньні лубіна ў справе павялічэньня ўраджайнасьці нашых палёў. Па заворанаму лубіну добра ўдаюцца ўсе пасевы жыта, бульбы, канаплі, аўсу, грэчкі і інш., значна павялічваюць свае ўраджаі, і ў паасобных выпадках у 2-3 і больш раз вышэй ураджаяў няўгноеных палёў, аб чым і гаворыць наступная табліца.

| Заворана зялёнай масы лубіну | Ураджай у *цнт* з 1 *га* | |
|---|---|---|
| | Зерня жыта | Бульбы |
| Нічога не заворана зялёнай лубінавай масы . . . . . | 5,5 | 39 |
| Заворана 180 *цнт* зялёнай масы лубіну. . . . . . . . | 10 | 86 |
| Заворана 360 *цнт* зялёнай масы лубіну. . . . . . . . | 13,2 | 123 |
| Заворана 540 *цнт* зялёнай масы лубіну. . . . . . . . | 14,4 | 147 |

Чым лепшы ўраджай зялёнай масы, тым больш яе заворваецца ў глебу, тым большы ўраджай.

Лубін найлепшае ўгнаеньне ня толькі для пяшчаных глеб, але і больш зьвязаных, як супяшчаных і сугліністых. Для атрыманьня таннага лубінавага ўгнаеньня, кожны саўгас і калгас павінны клапаціцца аб тым, каб набываць насеньне лубіну ўнутры сваёй гаспадаркі. Каб атрымаць добры ўраджай, як зялёнай масы для ўгнаеньня, так і насеньня лубіна, неабходна знаць і практычна ўжываць правілы яго культуры.

## Правілы вырасьліваньня лубіну на насеньне

Для культур лубіна прыгодны стараворaныя глебы: пяшчаныя, супяскі і суглінкі.

У севазвароце пасеў лубіну мажлівы пасьля любой расьліны, прычым па дадзеным Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі на рыхлых пясках бязьзьменны пасеў лубіну па лубіну на працягу пяці год ня даў ніякіх адмоўных бакоў. Гэта сьведчыць аб мажлівасьці ў першыя гады пасева лубіну па лубіну.

Пасеў лубіну трэба вытвараць абавязкова па зяблеваму ворыву з веснавым пераворваньнем. На лёгкіх і чыстых ад сьмяцьцёвых расьлін глебах мажліва дапушчаць замену веснавога ворыва культываціяй (спрунжынная, дыскавая барана і інш. культыватары).

Палі, на якіх калі-небудзь высяваўся лубін і калі ён ідзе другім корнем па гною, не патрабуюць заражэньня клубянковымі бактэрыямі. У астатніх выпадках на ўноў засяваемых лубінам палёх трэба заражаць абавязкова адным з наступных спосабаў перад засевам.

1. Заражэньне глебы, на якой упяршыню высяваецца лубін, можна зрабіць шляхам папярэдняга высеву насеньня лубіну ў папярэднюю культуру (у ячмень, авёс, яравую пшаніцу і інш.). Для гэтага дастаткова 35—50 *кг* насеньня лубіну высеяць разам з папярэднікам і на другі год на гэтай плошчы высяваць лубін.

2. Спосаб заражэньня нетрагінам. Перад самым севам лубіну, калі глеба ўжо падрыхтавана да сяўбы, бярэцца насеньне лубіну з разьліку 1,8 *цнт* на 1 *га* і нетрагіну 0,5 *кг*. Нетрагінам абсыпаць насеньне лубіну і добра перамяшаць. Для таго, каб лепш зьмяшаць нетрагін з лубінам, апошні трэба змачыць вадой да вільготнага стану, пасьля чаго зараз-жа высяваць. Нетрагін можна атрымаць праз цэнтральную аграхэмічную лябараторыю: г. Менск, Шырокая 28.

3. Трэці спосаб заражэньня лубіну складаецца з наступнага: узятыя з восені карэнчыкі лубіну захоўваюцца ўзімку ў сухім склепе, ці закапваюцца ў зямлю. Перад засевам клубянкі абіраюцца з карэнчыкаў, дробязь змачваюць вадой і перамешваюць з насеньнем. Пры гэтым добра дадаць да клубянкоў крыху лубінавай зямлі.

4. Расьсяваньне камбінаванай сявяркай зямлі, якая ўзята з поля, дзе раней рос лубін. Для гэтага патрэбна 4—6 *цнт* лубінавай зямлі засыпаць у скрынку штучных угнаеньняў і расьсеяць па полі.

5. Абмешваньне насеньня лубіну рашчынай зямлі, якая ўзята з поля, дзе раней рос лубін. Для гэтага на 1 *га* патрэбна каля 1 воза лубінавай глебы, якая рашчыняецца ў вадзе да поўвадкага стану.

6. Зямлёй, на якой раней рос лубін. 5—7 вазоў такой зямлі дастаткова каб заразіць 1 гэктар пасеву.

7. Калі па тым ці іншым прычынам немагчыма вытвараць паказанымі спосабамі заражэньня, дык патрэбна замест заражэньня ўнесьці гною з разьлікам 6 тон на 1 *га*.

## Унясеньне мінэральных угнаеньняў

Пад лубін уносяцца галоўным чынам наступныя мінэральныя ўгнаеньні: фасфарыты і калійныя. Фосфарныя і асабліва калійныя ўгнаеньні значна павялічваюць ураджай і скарачаюць вэгетацыйны пэрыяд сіняга лубіну. Пад пасеў лубіну трэба ўносіць 15 проц. сільвініту 2—3 *цнт* і фасфарыту—5—6 *цнт* на *га* (сільвініт і фасфарыт уносіць загадзя з вясны да пачатку веснавой апрацоўкі глебы). Пры недахопе сільвініту можна замяніць яго і іншымі мінэральнымі калійнымі ўгнаеньнямі напрыклад, попелам з разьліку 6—3 *цнт* на *га*.

У замен сільвініту, як з большым процантам утрыманьня калія, у 1933 г. і наступныя гады будзе завозіцца хлорысты калій. Хлорысты калій з посьпехам можна скарыстаць, як калійнае ўгнаеньне пад лубін. На *га* пасеву лубіну патрэбна ўносіць 1—1,8 *цнт* хлорыстага калія.

Хлорысты калій неабходна ўносіць у глебу загадзя, або ў час зяблевага ворыва, або перад спрунжынаваньнем зябі ўвесну.

Перад высевам насеньне лубіну павінна быць праверана на ўсхожасьць. Высеў рабіць адначасова з раньнімі яравымі, ужываючы скарачэньне перыяду працягласьці сяўбы і ня больш 10 дзён з заканчэньнем сяўбы. Сярэдняй усхожасьцю лубіну лічыцца 80 проц. Пры сярэдняй усхожасьці насеньня, трэба высяваць на *га* сіняга лубіну 180 *кгр* і жоўтага—150 *кгр*. Пасеў утвараць радковы з міжрадзьдзямі ў 25 сант.

Пры недахопе радковых сявярак можна дапускаць раскідны пасеў з задзелкай насеньня культыватарамі на глыбіню: на пяшчаных глебах 5 *см*, на лёгкіх, суглiністых глебах—да 3-х *см*.

Догляд за пасевамі лубіну заключаецца ў барацьбе з пустазельлем. Пры шырокарадным пасеве лепш за ўсё палоць конным, або ручным плянэтам. Пры суцэльным раскідным пасеве ўтвараецца ручная полка.

Уборку вытвараць жаткай, альбо снопавязалкай у час масавага пабурэньня бобікаў (да 70 проц.) на невялікіх плошчах пасеву лубіну на насеньне з мэтай найменшых страт насеньня ў час уборкі.

У тым месцы, дзе мяркуецца сьціртаваць лубін, на зямлю насьцілаецца мост з жэрдак, або лапак сухога дрэва, пасьцілаецца крыху саломы, а затым кладзецца лубін. Шырынёю сьцірты звычайна робяцца 8 *м*, даўжыня—20—30 *м*.

Праз кожныя 0,5 *м* слоя лубіну насьцілаецца сухая салома. Таўшчыня слою саломы—ад 0,15 *м* да 0,20 *м*.

Пры давядзеньні сціргы да 2,5 *м* вышыні пачынаецца завяршэньне яе, пры чым завяршэньне робіцца ў выглядзе чатырохсхільнага даху з найбольш стромкімі схіламі. Пасьля завяршэньня сьцірты, верх яе пакрываецца паўмятровай таўшчыні слоем саломы, прыціскаецца жэрдкамі зьвязанымі папарна ў выглядзе крокваў. З бакоў сьцірты, а таксама на рагох яе, ставяцца проста-стаўныя жэрдкі, да якіх зьверху і зьнізу прыпрывязваюцца гарызонтальныя жэрдачкі. Да апошніх прыкладаецца чарот, або загадзя прыгатаваныя саламяныя маты, якія захоўваюць прыбраны ў сьцірты лубін, ад дажджу і сьнегу.

Звозку лубіну з поля вытвараць на колах з шчыльным дном і з укладкай расьлін бобікамі ў сярэдзіну воза.

Абмалочанае насеньне трэба прасушваць, скарыстоўваючы для гэтага сушку насеньня на сонцы. У крайнім выпадку сушку можна ўтвараць на чардаку дома, пуні, назіраючы за ходам сушкі насеньня, час ад часу яго пералапачваючы. Для сушкі насеньне насыпаецца невялікім слоем таўшчынёй прыблізна ў 0,25 мэтра.

Захоўваць насеньне трэба ў сухім памяшканьні і з добрай вэнтыляцыяй. Насеньне неабходна захоўваць россыпам таўшчынёй слоя ня больш як 0,5 мэтра. Для назіраньня за захоўваемым насеньнем трэба вылучаць адказнага чалавека, які-б сачыў за станам насеньня і час ад часу яго пералапачваў.

Для таго, каб атрымаць найбольшую зялёную масу да моманту заворваньня лубіну на ўгнаеньне, неабходна высяваць яго ў другой палове мая месяца. Сеяць трэба радковай сявяркай, або раскідным з нормай высеву 2—2,5 *цнт* на *га*. Задзелываць насеньне на такую-ж самую глыбіню як і пры культуру лубіну на насеньне.

Заворваць зялёную масу лубіну трэба ў пэрыяд ад красаваньня да пачатку стварэньня бліскучых бобікаў. Пры заворваньні лубіну пад азімае жыта або пшаніцу, неабходна сурова прытрымлівацца найбольш спрыяючага тэрміну пасеву азімых.

На зьвязаных глебах лубін заворваюць за два, а ў сухія гады за чатыры тыдні да пасеву жыта, або пшаніцы. На пяшчаных глебах у сухія гады лубін неабходна заворваць за два тыдні да пасеву азімых, а пры часта праходзячых дажджох за некалькі дзён і нават перад самым пасевам. Перад заворваньнем, для таго, каб лягчэй было заворваць, лубін неабходна пракатаць драўляным звычайным катком. Такі каток можна зрабіць у сябе ў гаспадарцы.

Прыкатваючы лубін, патрэбна ўлічваць, у якім напрамку будзе заворвацца зялёная маса і згодна гэтаму ўтвараць пракатку. Глыбіня заворваньня павінна быць звычайная для той глебы, у якую заворваецца зялёная маса лубіну і ні ў якім разе не дапушчаць выворваньня надглебнага слоя глебы. Заворваньне павінна быць ўтворана старанна, пры якім лубін не пав'нен аставацца на паверхні глебы.

Пажніўны лубін высяваецца зараз-жа пасьля ўборкі азімых, альбо ярыны. Для гэтага ўтвараецца мелкае ворыва глебы ў 8—9 *см*. Ворыва можна замяніць лушчэньнем жніўя на глыбіню каля 8 *см*. Спосабы пасеву і колькасьць пасеўнага матар'ялу тыя самыя, што і пад пасеў лубіну з вясны на зялёнае ўгнаеньне. Пажніўны лубін лепш скарыстоўваць на ўгнаеньне пад ярыну. Для гэтага лубін з восені не заворваюць, а пакідаюць яго зімаваць на карні і заворваюць яго вясной перад пасевам ярыны.

**Краскоўскі.**



Капуста саўгасу Цішаўка Пухавіцкага раёну. Вага аднаго качана капусты 10 кілегр.

# КОЖНЫ ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫ САЎГАС І КАЛГАС ПАВІНЕН МЕЦЬ МОЦНУЮ КАРМАВУЮ БАЗУ

## Як сіласаваць брагу

У мінулым нумары нашай часопісі быў зьмешчан артыкул „За рацыянальнае выкарыстаньне брагі". У артыкуле была яскрава давядзена карысьць брагі і значэньне яе ва ўзмацненьні кармавых рэсурсаў нашых калгасаў і саўгасаў. Апрача скармліваньня брагі ў звычайным выглядзе, брагу магчыма сіласаваць, што дасьць вялікую эканомію і спажыўнасьць іншых відаў кармоў больш грубых.

### Сіласаваньне брагі з грубымі кармамі

Вялікі эфэкт дае брага пры сіласаваньні яе з грубымі кармамі.

Для гэтай мэты брагу заліваць у траншэю або сіласную яму на шчыльна ўтрамбаваныя пласты грубых кармоў. Брагу пры гэтай апэрацыі патрэбна браць па меры магчымасьці не астужанай. Утрамбованьне спрыяе грубым кармом (у выглядзе рэзкі, або мякіны) перамяшацца з брагаю і ўцягнуць у сябе ўсю вадкасьць брагі.

Такім чынэм мы ў даным працэсе сіласаваньня ня толькі захавалі брагу, але і паляпшаем якасьць і спажыўнасьць грубых кармаў. Нават самыя грубыя кармы, як салома і мякіна, робяцца больш мяккімі і сочнымі. Пры гэтым павялічваецца іхная спажыўная вартасьць пад уплывам малочна-кіслага бражэньня, якое праходзіць у сілоснай яме.

### Сіласаваньне брагі ў чыстым выглядзе

Да другога спосабу сіласаваньня брагі належыць—сіласаваньне брагі ў чыстым выглядзе. Але гэта рабіць магчыма толькі ў тым выпадку, калі грубых кармоў зусім няма, або вельмі мала, толькі для таго, каб захаваць усю маючую брагу, якая ідзе з завода і ня можа поўнасьцю скарыстацца ў сьвежым выглядзе.

Гэтае сіласаваньне праводзіцца шляхам адстоя. Для гэтай мэты ў яму або траншэю заліваецца брага. Пасьля астываньня на працягу некалькіх дзён, вадкасьць зьбіраецца на версе над адстоем. Пры такім спосабе сіласаваньня траншэя не павінна даваць магчымасьці выходзіць гэтай вадкасьці, бо вадкасьць, выцякаючы, выносіць з сабою шмат спажыўных матэрый. Паветра таксама не павінна праходзіць у траншэю, бо яно выклікае шкодныя бактэрыяльныя працэсы.

Перад скармліваньнем, вадкасьць з траншэі зьліваецца, а асадак—гушча скармліваецца жывёлай. Але для гэтага асадак—гушча павінна пастаяць на адкрытым паветры некалькі дзён, пакуль не пакрыецца цёмна-бурай коркай. Гэтую корку скармліваць нельга. Скармліваецца толькі той асадак, што ляжыць пад коркай.

### Замаражваньне брагі

Брагу магчыма таксама і замаражваць. Для гэтага трэба зрабіць спэцыяльнае месца, у якое наліваецца брага і замаражваецца асобнымі слаямі. Потым яе расьсякаюць на кавалкі і складаюць у копны. Гэтыя копны абліваюцца гарачай брагай і такім чынам утвараецца супольная замерзлая маса.

Для таго, каб захаваць брагу ў такім выглядзе да вясны, або да лета, яе трэба пакрыць кастрой, ці саломай.

Пры скармліваньні яе зноў растапліваюць і даюць жывёле, але ўжо ў меншай колькасьці, чым сьвежую.

У падагульненьні трэба адзначыць, што ўсё-ж самы карысны і прымянімы для калгасаў і саўгасаў спосаб гэта—сіласаваньне брагі з грубымі кармамі.

**В. Гурэвіч.**

## Кармавыя дрожджы ў корм парасятам

Аддзелам кармленьня Беларускага Навукова-дасьледчага інстытуту Сьвінагадоўлі праведзены вопыт скармліваньня парасятам новага віду бялковага корму—кармавых драждчэй. Для досьледу было ўзята 20 парасят, разьбітых на 4 групы. Першая група (кантрольная) атрымала ў рацыёне 10 проц. зьнятога малака, другая група—атрымала 7 проц. сухіх драждчэй, трэцяя група атрымала 7 проц. вараных драждчэй і чацьвёртая—7 проц. сырых драждчэй.

Сярэдняя вага парасят ва ўсіх групах перад пастаноўкай досьледу раўнялася 19—20 *кг.*

Дрожджы скармліваліся ў мешанцы з асноўным кормам. Сухія (прыкладна 125 грам на галаву) падсыпаліся ў мешанку концэнтратаў і перамешваліся, а вараныя і сырыя збалтываліся з вадою, а потым ўліваліся ў балтушку з мешанкі концэнтратаў. Паядаемасьць корму ўсімі чатырмя групамі была добрая і іх здароўе таксама было нармальнае. Досьлед працягваўся два месяцы і паказаў, што парасяты, якім скармлівалася зьнятое малако, далі ў сярэднім у суткі 294 *гр* прывагі, а парасяты, якія карміліся сухімі драждчамі, далі прывагу ў 299 грам у суткі. Сырыя і вараныя дрожджы далі значна меншы вынік.

Сухія дрожжы зручны для ўжываньня, бо ў сухім памяшканьні яны могуць захоўвацца доўгі час. Пры цяперашніх цэнах унясеньне драждчэй у рацыён у колькасьці 7 проц. значна выгадней, чымся скармліваньне 10 проц. зьнятога малака.

Дрожджы зьяўляюцца добрым кармом ня толькі для парасят, але і для падсосных матак і хракоў у злучны пэрыяд.

**Змушка.**

# Супроць апартуністычнай блытаніны ў пытаньнях спэцыялізацыі сацыялістычнага земляробства

*(Канец. Гл. №№ 20—23 „Ш. К.“)*

У яшчэ большай ступені гэта датычыцца да сыстэмы машын: па меры тэхнічнага прагрэсу ўсякая зьмена ў сыстэме машын істотным чынам адбіваецца на тэхналёгічным працэсе вытворчасьці як у адносінах яго ходу і тэмпаў, так і ў адносінах яго разьмераў. Але ці-ж разьвіцьцё сыстэмы машын у сваю чаргу не вызначаецца да вядомай ступені таксама самім характарам таго ці іншага віду вытворчасьці; ці-ж магчымасьць унядрэньня той ці іншай сыстэмы машын у вытворчасьць не знаходзіцца ў цясьнейшай залежнасьці ад сацыяльнага тыпу самой вытворчасьці, хоць сама сыстэма машын у той-жа час зьяўляецца адным з фактараў сацыяльнай перадзелкі?

Дарэмнай спробай было-б знайсьці ў данай рабоце адказ на ўсе гэтыя пытаньні.

Аўтары зборніка сыстэматычна ўхіляюцца даваць тлумачэньні, чаму яны прышлі да тых ці іншых вывадаў па поваду тых ці іншых паказчыкаў праектуемых імі тыпаў МТС у другім пяцігодзьдзі. Яны проста з уражальнай адсутнасьцю скромнасьці дэкляруюць: так будзе!

Ігнараваньне агульных народнагаспадарчых магчымасьцяй праяўляецца і ў нястрымным максымалізьме аўтараў па частцы мэханізацыі працэсаў вытворчасьці, забясьпечаньня энэргіі і г. д. і г. д. Аўтары ўпэўнены, што да канца другой пяцігодкі ў запраектаваных імі тыпах гаспадаркі мы зможам ажыцьцявіць гранічную ступень мэханізацыі, хэмізацыі і г. д. У выніку—гэамэтрычная прагрэсія росту вытворчасьці працы на аснове бязглуздых патрабаваньняў, прад'яўляемых да народнай гаспадаркі па частцы вытворчасьці сельска-гаспадарчых сродкаў вытворчасьці і капіталаўкладаньняў. Дзіўней за ўсё, што ўсё гэта робіцца з такім лёгкадумным выглядам, нібы ажыцьцяўленьне гэтых праектаў гарантуецца знаходзячымся ў іх у кішэні валютыраваным чэкам на ўсю суму капітальных укладаньняў і накладнымі на накіраваныя ў іх адрас матар'яльныя фонды. У заключэньне главы аб тыпе пладагароднай МТС аўтары так фармулююць: „Для выкананьня ўсіх запраектаваных мерапрыемстваў па разьвіцьці Кунцаўскай МТС у другую пяцігодку неабходна выкананьне рада мерапрыемстваў асобнымі ведамствамі і інстытутамі“. І далей ідзе восем пунктаў ультыматыўных патрабаваньняў, сярод якіх побач з патрабаваньнямі адносна электраэнэргіі і электраабсталяваньня, сыстэмы машын устаноўленых тыпаў і марак, аўтамашын, трактароў і г. д. ёсьць і такія як напрыклад заказ на канструкцыю машын для мэханізацыі ўборкі гародніны і ягаднікаў (з вызначэньнем сьпеласьці па іх колеру, гл. вып. I стар. 258), сэлекцыя і стандартызацыя сартоў гародніны і ягад, забясьпечваючых адначасовае сасьпяваньне.

Тэрытарыяльныя разьмеры ўсіх тыпаў МТС узяты аўтарамі ў існуючых межах дзейнасьці МТС. Пры гэтым у іх ня ўзьнікае ў саміх праектоўках ніводнага пытаньня адносна таго, чаму МТС мае такі радыус дзеяньня, наколькі ён гаспадарча мэтазгодны, якія зьмены адбудуцца ў выніку завяршэньня суцэльнай калектывізацыі, насычэньня станцыі новымі машынамі і прыладамі, зьмен у напрамку гаспадарак калгасаў і г. д. А падумаць было над чым, так як напрыклад не пасьпелі аўтары выкласьці свае погляды, як Кунцаўская МТС была разьбіта на дзьве станцыі.

Калі гранічна насычаная вядучай культурай тэрыторыя не дае, напрыклад, дастатковай колькасьці кармоў (па праекту), аўтары ня спыняюцца перад скарачэньнем пагалоўя малочнага стада амаль на 38 проц. (вып. I, стар. 272) і коняй больш чым на 60 проц. (вып. I, стар. 254). Вось што вызначае рысы прадпрыемстваў. Досыць цікава пры гэтым выслухаць аўтараў, чаму яны ў такім выпадку адмовіліся ад увозу нехапаючых кармоў з другіх раёнаў: „Гэтыя аддаленыя раёны ў плянаваньні сваёй гаспадаркі бязумоўна хутчэй прадугледзяць на базе кармовых рэсурсаў разьвіцьцё малочнай жывёлагадоўлі з вывазам таварнай малочнай прадукцыі ў прамысловыя цэнтры, чым вываз з раёну грубых кармоў“ (вып. I, стар. 272—273). Ці ня праўда, досыць цікавая ілюстрацыя да кляцьвенных завяраньняў у вернасьці плянаваму заданьню!

Гэта захапленьне перад тэрыторыяй сказваецца напрыклад і ў тым, што аўтары мэханічна ўключаюць у сыстэму МТС усё тое, што на тэрыторыі яе дзейнасьці можа быць запраектавана.

У заключэньне неабходна адзначыць, што аўтары як відаць і самі адчуваюць нязручнасьць па поваду асобных сваіх палажэньняў. Другі выпуск работы, прысьвечаны зернавым МТС і вышаўшы з друку ў апошні час, носіць на сабе сьляды асобных спроб зьмякчыць некаторыя „лева“-апартуністычныя ўстаноўкі. Больш таго, у гэтым выпуску выкладаньню праектовак тыпу зернавых МТС прысьвечана ўводная глава т. Нікуліхіна, правільна высьвятляючая ў агульнай форме асноўныя пытаньні арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў на даным этапе. У гэтай главе правільна пастаўлены ў агульнай форме пытаньні аб злучэньні „буйнай індустрыяльнай вытворчасьці з калгаснай арцельнай формай, аб сталых брыгадах у калгасах, аб рабоце з калгасным актывам, аб перабудове работы МТС на аснове шасьці ўмоў тав. Сталіна, аб севазваротах, аб захаваньні конскага пагалоўя, раздаюцца заклікі да барацьбы супроць саўгасізацыі калгасаў, супроць гігантаманіі і „спроб пабудаваць адзінае прадпрыемства на ўвесь раён“.

Характэрна пры гэтым, што аўтары, заклікаючы ў другім выпуску да захаваньня конскага пагалоўя на працягу другой пяцігодкі, усё-ж у пэрспэктыве прадугледжваюць поўнае выцясненьне каня з сельскай гаспадаркі (вып. II, стар. 33). Аўтары спасылаюцца на пастанову ЦК партыі ад 25 сакавіка 1932 г. „Аб прымусовым абагульненьні жывёлы ў калгасьнікаў“ і ў той-жа час у сваіх праектоўках ня вылучаюць і не прадугледжваюць на другую пяцігодку якога-небудзь разьвіцьця індывідуальнай часткі гаспадаркі калгасьнікаў, не асуджаюць сваіх установак на безадкладнае стопроцантнае абагульненьне прадукцыйнай жывёлагадоўлі і другіх „лева“-апартуністычных памылак, выкладзеных ў першым выпуску. Ня робяць гэтага і рэдактары зборнікаў.

Відавочна ў работнікаў Калгаснага інстытуту зборнікаў т. Нікуліхіна і т. Бумберга нехапае мужнасьці прызнаць свае памылкі. Неабходна дапамагчы ім гэта зрабіць.

**Я. Міколенка.**

Аграном **Сакалоўскі**, працаўнік Маслааб'яднаньня прапануе даіць і паіць жывёлу з дапамогаю аднаго трубаправоду. Гэта ўдвая скарачае патрэбу ў трубах. Акрамя таго, пры пасьлядоўным накапленьні і выліваньні вады з труб, пераходзячы з паеньня наадаеньне, трубы тры разы ў суткі прамываюцца. Гэта дае магчымасьць замест ацынкаваных труб ставіць жалезныя неацынкаваныя, што таксама дае значную эканомію.

* * *

Для вырабу сыру дагэтуль ужываўся выключна сычужны фэрмэнт, які здабываецца з цялячых вантроб. Скарачэньне забою цялят прымусіла шукаць і замены для сычуга. Малочная лябораторыя Ўсесаюзнага інстытуту Жывёлагадоўлі пад кіраўніцтвам прафэсара Ініхава знайшла спосаб замены сычужнага фэрмэнту пэпсінам і масавага яго атрыманьня з сьвіных вантроб. Сыры, прыгатаваныя з пэпсінам і сычужным фэрмэнтам нічым паміж сабою не адрозьніваюцца.

* * *

Рабочы тав. **Калмыкоў** прапануе новую групавую прывязь для жывёлы. Прывязь гэтая складаецца з дроту, нацягнутага на блёках, які праходзіць над стойламі кароў, і двух кароткіх канцоў ланцугу для кожнай жывёлы. Адзін паварот блёку дае магчымасьць адразу прывязаць альбо спусьціць з прывязі 25 галоў жывёлы. Каштоўнасьць абсталяваньня скотных двароў такой прывязьзю ў 10 раз дзешавей, чым абыходзяцца замежныя сыстэмы прывязі.



**Адказны рэдактар—РЭДКАЛЕГІЯ.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 3043 | У ліку 2.070 экз. | Галоўлітбел № 1350.

